ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 43 (2341) 28 кастрычніка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 10 рублёў.

СУМНЫ ЮБІЛЕЙ




## КАЛІ НАД НАМІ КАПАЕ

Мінскаму Палацу мастацтва 20 гадоў... "Ужо?!" — здзіўлена гавораць амаль усе, хто даведваецца пра гэты юбілей. Здаецца, зусім нядаўна тут гучалі прамовы ў гонар яго адкрыцця. Вось так і з людзьмі атрымліваецца: "Зусім малады", — гаворым пра некага мы, а потым нечакана атрымліваем запрашэнне на вельмі сталы юбілей. Што тычыцца мяне, то я ў Палац мастацтва прыйшла без запрашэння. І размову, якая адбылася ў мяне з яго дырэктарам Ігарам Аляксандравым, таксама цяжка назваць святочнай.

Ігар Аляксеевіч — дырэктар новы, да выканання абавязкаў сваіх прыступіў зусім нядаўна, і спадчына яму дасталася, трэба сказаць, незайздросная. І ў адказ на маё пытанне - як ідзе падрыхтоўка да юбілею палаца — паказаў на столь у сваім кабінеце з велізарнай вільготнай плямай, на падцёкі на сценах. Але ж каб гэтая пляма была адзінай... Пасля апошняга дажджу лужыны стаялі ў холе, цякло на галаву ў залах, дзе выстаўлены карціны. Адразу чамусьці ўспомнілася, як у дзяцінстве ўважлівей за карціны разглядала ў мастацкім музеі ўбачаны ўпершыню псіхрометр — прыбор для вызначэння вільготнасці ў памяшканнях — і слухала тлумачэнні экскурсавода аб тым, што мастацкія творы можна зберагчы толькі тады, калі вельмі ўважліва і пільна захоўваецца пэўная тэмпература і вільготнасць... Не вытрымаўшы атмасферных умоў Палаца мастацтва, "узняўся" ў залах паркет. (Цікава, як сябе там адчуваюць карціны?) А звонку паступова асыпаецца плітка, якой быў абліцаваны будынак, прадзіравіўся дах...

(Заканчэнне на 6-й стар.).

**Вось ужо многія месяцы працягваецца конкурс твораў, прапанаваных у якасці магчымага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. На жаль, ні адзін з прапанаваных і вынесеных на грамадскі суд твораў не атрымаў пераканаўчай падтрымкі.**

**У сувязі з гэтым журы конкурсу прыняло рашэнне ўзяць за тэкстуальную аснову гімна верш Янкі Купалы "Маладая Беларусь" ("Вольны вецер напеў вольных песень табе"). Праўда, верш занадта доўгі. І для гімна ўзяты чатыры страфы, з якіх адна можа быць прыпевам.**

**Гэтыя радкі нашага песняра вось ужо восемдзесят гадоў служаць абуджэнню Беларусі, увасабляюць і адлюстроўваюць любасна-пяшчотныя, прыгожыя вобразы і малюнкі роднага краю, гучаць упэўненасцю, што рэспубліка зойме "пачэсны пасад між народамі".**

**Цяпер слова за кампазітарамі, якім прапанавана напісаць музыку да названага твора.**

**Ніжэй прапануем чытачам Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. Тэкст Янкі Купалы.**

**Вольны вецер напеў вольных
песень табе,
Бор зялёны ўзняў дружным гоманам,
Сонца полымем вызвала к слаўнай сяўбе,
Зоры веру ўлілі сілам зломаным.**

**Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..**

**Смела ў сонцы ідзеш, як жывы агняцвет,
Сееш ласкава сны залацістыя;
Не пужае сумежны дакучны сусед,
Не пужае пуціна цярністая.**

**Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..**

**Ад мяжы да мяжы, ад канца да канца
Аднаўлення павевы расходзяцца,
Абнімае душу без граніц, без канца
Маці-радасць, што лепшы
дзень родзіцца.**

**Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..**

АБ ДЗЯДАХ НА ЛІТВЕ

## БОХАН ХЛЕБА НА РАГУ СТАЛА

**ДЗЯДЫ — свята нашых продкаў. Спрадвеку адзначалася яно на Беларусі восенню як дзень памінання блізкіх і родных, якія адышлі ад нас у нябыт. У савецкі час мы забыліся на яго, як забыліся на многія свяшчэнныя старадаўнія традыцыі і абрады. Нас прымушалі забыцца. Ужо другі год Дзяды памечаны ў календары як Дзень памяці. Але ці ведаем мы, якім быў раней восеньскі памінальны абрад? У гэтым сэнсе, як адзначае аўтар артыкула "Бохан хлеба на рагу стала" А. Літвіновіч, уяўляе цікавасць нарыс Г. Віньчы "Дзяды на Літве", змешчаны ў 1904 годзе ў польскім ілюстраваным часопісе "Тыгоднік ілюстраваны", дзе ў пачатку XX стагоддзя друкаваліся працы, прысвечаныя гісторыі, архітэктуры, эканоміцы, сельскай гаспадарцы, праблемам адраджэння беларусаў як нацыі, уплыву беларускай культуры на суседнюю жамойцкую (летувіскую), пра расейскі і польскі ўплыў у XIX стагоддзі на беларусаў і на іхнюю культуру...**

* * *

Публікацыя Г. Віньчы "Дзяды на Літве" малавядомая ў беларускай этнаграфіі і фактычна знаходзілася па-за этнаграфічным ужыткам.

Праца ўяўляе цікавасць, бо аўтар яе падрабязна спыняецца на ўсіх рытуальных дзеяннях, звязаных з Дзядамі, і, галоўнае, характарызуе такія іх асаблівасці, аб якіх і сённяшняму этнографу мала што вядома. У гэтым яе каштоўнасць. На Беларусі некалькі разоў на год (ад чатырох да шасці) спраўлялі Дзяды (зімовыя — у першую суботу перад пачаткам вялікага посту; веснавыя (радаўніца) — у аўторак другога тыдня пасля Вялікадня; траецкія — у суботу перад святам Тройцы; восеньскія — у суботу перад днём св. Змітра). Галоўнымі з іх былі веснавыя і восеньскія, у прыватнасці, змітраўскія Дзяды. Менавіта Дзяды гэтых дзвюх пор года і найчасцей святкаваліся ў беларусаў, астатнія ж у шэрагу рэгіёнаў Беларусі ў пачатку XX стагоддзя ўжо былі забыты.

Нарыс напісаны ў паэтычнай і эмацыянальнай манеры рукой літаратара, магчыма, ураджэнца Беларусі. Дарэчы, ён вельмі маляўніча апісвае надыход восені на беларускіх землях. Каб чытач меў пэўнае ўяўленне аб Г. Віньчы як аб мастаку слова, мы тут прывядзём некалькі фрагментаў з гэтай працы. Не можа не выклікаць у нас захаплення апісанне аўтарам публікацыі мясцовай прыроды і жывёльнага свету: "Позняя восень. Засталіся ззаду веснавыя надзеі і трывогі, заціх працавіты гоман лета, не даносяцца ўжо песні з жытняга поля, замоўклі жніво, талака; не звіняць косы на лугах квяцістых... і дзяркач пакінуў лугі і палі. Бывай, лета! Бывай, сонца летняе! Бывай! І сцелецца жоўтым дыванам лісце на зямлю, напаўняючы паветра восеньскім водарам... Часам праскочыць вавёрка па галінах, часам зашамаціць у папараці ліс ці барсук, спяшаючыся на зімовае ложа — да зямлі. І ціша, вялікі спакой. Чалавек пасля працы адпачывае: у гумнах і пунях поўна, скаціна сытая, усяго многа за год".

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЮБІЛЕЙ БНФ*

## АПТЫМІСТЫЧНЫ ПОГЛЯД

**19 кастрычніка БНФ "Адраджэнне" адзначыў сціплы юбілей — 5-годдзе свайго з"яўлення на палітычнай арэне Беларусі. На вечары ў штаб-кватэры фронта, наладжаным з гэтай нагоды, Зянон Пазьняк заявіў, што БНФ быў і застанецца цэнтрысцкім народным рухам і не з"яўляецца прыхільнікам крайніх крокаў у палітыцы.**

**Лідэр "Адраджэння" выказаў аптымістычны погляд на магчымыя вынікі будучых парламенцкіх выбараў. Бліжэйшая задача цяпер — стварэнне кааліцыйнага ўрада. Па гэтаму пытанню была прынята адмысловая рэзалюцыя на канферэнцыі некамуністычных і антыімперскіх сіл, якая прайшла ў сярэдзіне кастрычніка пад эгідай БНФ.**

*СТАТЫСТЫКА*

## НАРАДЖАЕЦЦА МЕНШ

**Ужо 10 гадоў запар у сталіцы падае нараджальнасць. У 1992 годзе ў горадзе нарадзілася ўсяго 19 015 малых. У рэкордным жа 83-м — 29 550. Дарэчы, і ў гэтым годзе нараджальнасць наўрад ці дасягне мінулагодняга рубяжу. За паўгода з'явілася на свет менш 9 тысяч мінчан. І ўсё ж найбольшы спад быў у 1991 годзе, калі ў параўнанні з 1990-м дзетанараджэнне знізілася на 2 тысячы чалавек. Сярэдняя лічба штогадовага змяншэння нараджальнасці ў сталіцы — 8—9 працэнтаў.**

*"Цяпер мы маем звесткі пра 34 чалавекі з Беларусі, якія ратавалі яўрэяў з гета, дарослых, жанчын, дзяцей. Гэтых людзей мы называем праведнікамі. Мы лічым іх героямі, адносімся да іх з найвялікшым шанаваннем. І ў новым мемарыяле мы хочам адкрыць цэлую алею праведнікаў, як гэта ёсць, напрыклад, у Ізраілі. Зараз мы гэтых людзей запрашаем на нашы мерапрыемствы, прымаем іх з вялікай пашанай, лічым іх промнем сумлення Беларусі... Яны рызыкавалі сваім жыццём, жыццём сваіх блізкіх дзеля выратавання ганімых яўрэяў. Многа гэта ці мала — 34 чалавекі? Лічу, што так пытанне ставіць нельга. Мы знойдзем яшчэ шмат іншых праведнікаў ці іх нашчадкаў. Я перакананы, што Беларусь у гэтым плане чыстая краіна, яна не запляміла сябе здрадніцтвам адносна яўрэяў у час вайны. Хоць і нельга не гаварыць аб паліцаях і інш. Гэта было, але гэта не пераважала".*

*Прэзідэнт Беларускага аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і абшчын Леанід ЛЕВІН.*

*У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКУ*

## РЫХТУЮЦЬ ЗОНУ

**У Нацыянальным банку Беларусі створана рабочая група па падрыхтоўцы дакументаў для рэалізацыі пагадненняў "Аб аб"яднанні грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь з грашовай сістэмай Расійскай Федэрацыі" і "Аб практычных мерах па стварэнню рублёвай зоны новага тыпу". Абнародаваны таксама каляндарны план яе работ. Групу ўзначаліў першы намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Мікалай Кузьміч.**

**Па інфармацыі, якая ёсць на сённяшні дзень, група падрыхтавала ўжо напрацоўкі да праекта змяненняў і дапаўненняў у дзеючае цяпер банкаўскае заканадаўства. Іх асноўная ідэя — перадача часткі функцый Нацыянальнага банка Беларусі Цэнтрабанку Расіі. Згодна з планам работ, да 31 снежня брыгучага года з расійскімі спецыялістамі павінна быць прапрацавана пытанне аб стварэнні сумеснага фонду золата-валютных рэзерваў, прызначаных для падтрымання ўстойлівасці агульнай грашовай адзінкі. Да гэтага ж дня закончыцца работа па ўзгадненню правіл ажыццяўлення безнаяўных унутраных разлікаў паміж суб"ектамі гаспадарання. Да 1 студзеня 1994 года плануецца ўзгадніць паказчыкі прыросту аб"ёмаў грашовай масы і нормы патрабаванняў да камерцыйных банкаў.**

*ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА*



**Свой лёс Валерый ЮРКАВЕЦ (на здымку) звязаў з музыкай, і менавіта яна зрабіла яго даволі вядомым чалавекам у Светлагорску. Працуе Валерый у Палацы культуры хімікаў, займаецца арганізацыяй адпачынку мясцовых жыхароў. Ад яго ў многім залежыць музычнае афармленне вечароў, конкурсаў, праграма дыскатэк.**

*ТРЫВОЖНА*

## НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК

**У мінулым годзе загінуў на вытворчасці 401 чалавек, сярод іх — 36 жанчын і 4 падлеткі ва ўзросце да 18 гадоў. У апошнія гады гэты паказчык захоўваецца ў Беларусі з дзіўнай стабільнасцю: у 1991 годзе на прадпрыемствах і ў арганізацыях рэспублікі загінулі ў рабочы час 402 чалавекі, годам раней — 445.**

**Як сведчыць Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу, у 1992 годзе пры няшчасных выпадках на вытворчасці пацярпела 20,4 тысячы чалавек, якія страцілі працаздольнасць на адзін рабочы дзень і больш.**

**Часцей за ўсё прычынай вытворчага траўматызму са смяротным зыходам становіцца парушэнне правіл дарожнага руху — 28 працэнтаў ад агульнай колькасці загінуўшых у мінулым годзе. Шмат няшчасцяў прыносіць невыкананне патрабаванняў тэхналагічных працэсаў — 17 працэнтаў усіх смярцей, а таксама — нездавальняючая арганізацыя работ (15 працэнтаў) і эксплуатацыя няспраўных машын, механізмаў і абсталявання (13 працэнтаў).**

**У 1992 годзе агульная сума матэрыяльных страт склала 94,1 мільёна рублеў. Не выратоўваюць нас пакуль і значныя затраты на ахову працы — 3 513 беларускіх мільёнаў затрачана на яе патрэбы ў мінулым годзе.**

*РЭЛІГІЙНАЯ ХРОНІКА*

## З БЛАГАСЛАВЕННЯ ПАТРЫЯРХА

**Ікона архіепіскапа Георгія Каніскага-Магілёўскага, прылічанага нядаўна да святых, з благаславення патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II перададзена на пастаяннае захаванне Свята-Нікольскаму кафедральнаму сабору ў Навагрудку.**

**У прысутнасці шматлікіх прыхаджан і свяшчэннаслужыцеляў яе ўнёс у храм епіскап Навагрудскі і Лідскі, рэктар Мінскай духоўнай семінарыі ўладыка Канстанцін. У адпаведнасці з традыцыяй з гэтай нагоды адбылося ўрачыстае богаслужэнне.**

*СПРАВЫ ШЛЯХЕЦКІЯ*

## "ГОДНАСЦЬ"

**Згуртаванне беларускай шляхты (ЗБШ) падрыхтавала да выхаду ў свет першы нумар спецыялізаванага часопіса "Годнасць", які неўзабаве з'явіцца ў продажы. Амаль адначасова будзе паказана беларускаму тэлегледачу першая дакументальная стужка пра шляхту "Самотная альба вершніка", створаная на "Беларусьфільме". А 1 лістапада ЗБШ адкрывае шляхецкі універсітэт культуры.**

*ПАСЛЯ ПАВОДКІ*

## ВАЎКІ ЗАЕЛІ

**У Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці сталі даймаць ваўкі, колькасць якіх апошнім часам прыкметна павялічылася.**

**Звяры так асмялелі, што не баяцца паказацца на вочы людзям, а ў шэрагу вёсак іх ахвярамі сталі хатнія жывёліны. Спецыялісты мяркуюць, што прычына такой міграцыі крыецца ў нядаўняй паводцы на Палессі. З-за вялікай вады шэрым разбойнікам давялося сысці ў больш бяспечныя месцы.**

*ШПІЁНЫ*

## ЗАЛІШНЯЯ ЦІКАЎНАСЦЬ

**Пад Лідай па падазрэнню ў шпіянажы каравульнай службай адной з ракетных часцей, што базіруюцца тут, затрыманы пяцёра грамадзян Германіі, рабочых сумеснага германа-літоўскага прадпрыемства "Лустас". Замест таго каб займацца згодна з кантрактам будаўніцтвам гарадка для ваеннаслужачых, яны сярод белага дня здымалі на відэакамеру сакрэтны аб'ект адной ракетнай часці. Цяпер па гэтаму факту пачата расследаванне.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У ДВА разы стаў таннейшым беларускі "заяц" — з 14 кастрычніка курс расійскага рубля да беларускага ўстаноўлены 1 да 3. Нацыянальны банк рэспублікі "прызнаў" рэальную расстаноўку сіл у сувязі з абавязацельствамі перад Міжнародным валютным фондам.

З ПАЧАТКУ года не раскрыта аж 25 918 злачынстваў. Летась за цэлы год такіх "белых плям" нашы следчыя органы налічвалі 38 тысяч. Сёлета ў Беларусі выяўлена 435 фактаў хабарніцтва, а гэта ўдвая больш, чым за два папярэднія гады, разам узятыя.

РЭСПУБЛІКА Беларусь стала 33-м удзельнікам Канвенцыі па культуры Савета Еўропы. Гэта дазваляе нам удзельнічаць у рабоце Савета Еўропы ў галіне асветы, культуры, захавання гістарычных помнікаў, спорту і моладзі.

УЗНАГАРОДА таму, хто дапаможа раскрыць забойства Ю. Балбекава, будзе складаць 25 мільёнаў рублёў. Такую суму паабяцаў начальнік аддзела грамадскіх сувязей "Прыорбанка" Віктар Дудко. Ю. Балбекаў, пра забойства якога "Голас Радзімы" паведамляў у папярэднім нумары, быў супрацоўнікам "Прыорбанка".

ЖЫХАРЫ вёскі Пляса Воранаўскага раёна выступілі з ініцыятывай — стварыць на Гродзеншчыне нацыянальна-культурнае таварыства беларускіх літоўцаў. Таварыства ставіць перад сабой задачу пашыраць родную мову, культуру, традыцыі. Мясцовыя літоўцы цяпер рыхтуюцца да сусветнага фестывалю літоўскай культуры, які мае адбыцца ў Вільнюсе летам 1994 года.

ЗА ПЕРШУЮ палову гэтага года ў Беларусі прыватызавана 108,9 тысячы (11 працэнтаў) кватэр у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду. Найбольш хутка ідзе гэтая справа ў гарадах (60,7 тысячы кватэр), марудзяць на вёсцы (5,8 тысячы кватэр і дамоў). Ацэначны кошт адной прыватызаванай кватэры ў горадзе склаў 13,4 тысячы рублёў, у вёсцы — 30,3 тысячы.

ПАЛІЎНЫ крызіс у Беларусі вымушае ўспомніць пра конскую сілу. Чэрвеньскае аб'яднанне грамадскага харчавання ўжо даўно перасела з грузавіка на калёсы. Гледзячы на калег, і раённае спажывецкае таварыства набыло для транспартных патрэб спачатку 4-х, а потым яшчэ 3-х коней.

*КНІГА І РЫНАК*

**У Мінску ў інфармацыйна-культурным цэнтры Савета Міністраў праходзіў семінар "Кнігапрадпрымальніцтва ва ўмовах рыначнай эканомікі". Ён арганізаваны Аддзелам навучальных праграм Брытанскага ўрадавага фонду "Наў-хаў", Міністэрствам інфармацыі рэспублікі і Фондам Сораса — Беларусь.**

**У праграме семінара, які працягваўся пяць дзён, — лекцыі і дыскусіі па пытаннях развіцця беларускага кнігавыдання ў міжнародным кантэксце, агульнага і фінансавага кіравання кніжным бізнесам, узаемадзеяння кнігавыдаўцоў і распаўсюджвальнікаў кніжнай прадукцыі.**

**Для ўдзелу ў семінары з Вялікабрытаніі прыехалі вопытныя лектары — кансультанты па праблемах кніжнага бізнесу.**



ДЛЯ КАГО?

# ШКОЛА ЦЫВІЛІЗАВАНАГА ЛІДЭРА

Мы прывыклі ва ўсім набліжацца да сярэдняга ўзроўню і не марыць пра вышэйшы. Школа, у якой мы вучыліся (ці рабілі выгляд, што вучымся) нават так і называецца — сярэдняя. Трошкі адукацыі, трошкі выхавання. Дзеці вывучаюць замежную мову 6 гадоў, а потым не могуць зразумець на ёй некалькі сказаў. Так вучыліся мы ўсе. Выключаючы тых, каму пашанцавала трапіць у спецыялізаваную школу з больш глыбокім вывучэннем матэматыкі ці замежнай мовы. Шанцавала нямногім, і толькі ў гарадах. На вёсцы, як вядома, настаўнік, які выкладае матэматыку, вучыць дзяцей часам і фізіцы, і хіміі.

Ці змянілася што-небудзь сёння? Здаецца, столькі пісалася і гаварылася пра рэформу сярэдняй школы. На гарызонце ўжо бачылі шчаслівых дзетак у чыстых класах. Марылі, каб хоць пасля нас прыйшлі ў школы людзі, якія змогуць зацікавіць дзяцей навукай.

Мне здаецца, не змянілася амаль нічога. Канешне, не носяць у школах піянерскія гальштукі і не зганяюць дзяцей пасля ўрокаў на зборы піянерскай дружыны. Але па-ранейшаму існуюць прэстыжныя школы і звычайныя "сярэднія". Да прэстыжных можна аднесці і платныя навучальныя ўстановы. Сёння ўжо нельга спадзявацца, што бясплатная адукацыя можа быць якаснай. У гэтым пераканаліся даўно і вучні, і настаўнікі. Бясплатная адукацыя — гэта старыя падручнікі, дрэнная аснашчанасць школ, гэта выкладчыкі з жабрацкай зарплатай. У выніку — сярэдненькая адукацыя. Такой школе патрэбна альтэрнатыва. І яна можа існаваць толькі за грошы. Сярод усеагульных скаргаў на нястачу даўно з'явіліся людзі, якія маюць грошы, каб вучыць сваіх дзяцей не ў дзяржаўнай школе. Ці лепшую адукацыю і ўмовы навучання атрымаюць гэтыя дзеці?

Для дзяцей, за выхаванне і навучанне якіх бацькі здольны плаціць 150 амерыканскіх долараў штомесяц, і працуе недзяржаўная гімназія закрытага тыпу "Наступны час". Яна адкрылася 17 лютага 1992 года. Ініцыятыва стварэння гэтай навучальнай установы нарадзілася адначасова з боку бацькоў, якія не хацелі, каб іх дзеці вучыліся ў дзяржаўнай школе, і настаўнікаў, якім рамкі сярэдняй школы сталі цеснымі.

У гімназіі вучацца і жывуць 55 чалавек (у выхадныя дзеці едуць да бацькоў). Гімназія знаходзіцца ў маляўнічым кутку пад Мінскам каля пасёлка Крыжоўка. У кожным класе вучыцца ад 5 да 10 вучняў (як правіла, у звычайнай школе — 30—40 чалавек у класе). Дзяўчынак у гімназіі няшмат. Вучацца дзеці з 4-га па 11-ты клас. У 4-м ужо кожны прадмет выкладае асобны настаўнік. Навучанне максімальна набліжана да індывідуальнага. Кожны ўрок складаецца з дзвюх частак па 40 мінут, як у ВНУ. У старшых класах дзеці вучацца па 10 гадзін у дзень. У гімназіі не робяць акцэнты на нейкім пэўным прадмеце. Кожны развівае свае здольнасці. Праўда, англійскай мовы там — па 6—8 гадзін у тыдзень. Навучанне вядзецца на рускай мове, акрамя выкладання беларускай літаратуры, мовы і гісторыі Беларусі. Вучням гарантуюць атрыманне адукацыі сярэдняй школы (гімназія працуе па ліцэнзіі N 1 Міністэрства адукацыі). Але ў гімназіі ёсць свае падыходы як да навучання, так і да выхавання. Педагогі гімназіі "Наступны час" у большасці сваёй дактары і кандыдаты навук. Выконвае абавязкі дырэктара гімназіі (гэта пакуль вакантная пасада) Мікалай Жарыкаў, кандыдат педагагічных навук, дацэнт. Па адукацыі ён псіхолаг. Разам з Аляксандрам Сыкалам, кандыдатам медыцынскіх навук, ён аўтар распрацоўкі метадалогіі школы.

Настаўнікі, што выкладаюць пэўны прадмет, працуюць у школе па гадзінах, не ў штаце. Класных кіраўнікоў няма. Фінансаванне школы ідзе праз акцыянернае таварыства "Наступны час" і плату бацькоў. Настаўнікі кажуць, што ў гімназіі яны атрымліваюць не болей, чым іх калегі ў дзяржаўных школах. Іх цікавяць іншыя ўмовы працы і магчымасць самарэалізацыі. Праўда, акрамя гімназіі, большасць выкладчыкаў працуе ў іншых навучальных установах.

Мікалай Жарыкаў сцвярджае, што гімназія імкнецца наблізіцца да ідэальнай школы, дзе павінны выконвацца тры задачы — адукацыя, выхаванне, аздараўленне дзяцей.

У гімназіі выкладаюць такія прадметы, як харэаграфія, баявыя мастацтвы, мастацтвазнаўства. Кожны з гэтых прадметаў скіраваны на выхаванне свядомага чалавека і нават інтэлектуальна-духоўнай эліты грамадства. Гімназія мае яшчэ адну назву — школа цывілізаванага лідэра. Лідэр, па канцэпцыі гімназіі, — гэта лідэр у асабістым жыцці, гэта Народжаная Асоба. Лідэр — гэта прафесіянал высокага ўзроўню. Аснова педагагічнай канцэпцыі гімназіі - праца з псіхікай вучня,выхаванне новага светаўспрымання. У гімназіі лічаць, што жыццё нашых дзяцей будзе такім, як і ў нас, калі дзеці не стануць іншымі па светапогляду.

Адзін з галоўных прадметаў, што працуе на выхаванне цывілізаванага лідэра, псіхатворчасць. Яго выкладае Мікалай Жарыкаў. Гэта тэхналогія кіравання сваім унутраным светам. Псіхатворчасць дае дзецям магчымасць кантраляваць свае эмоцыі, навучыцца хутка засвойваць і перапрацоўваць інфармацыю, павышаць сваю працаздольнасць. Менавіта фарміраванню асобы цывілізаванага лідэра і прысвечаны развіваючыя праграмы. "Я — Сусвет" — праграма, скіраваная на ўсведамленне вучнем сябе часткай космасу, грамадзянінам Сусвету.

Праграма "Спорт у вашым жыцці" — гэта не проста фізкультура. У гімназіі тлумачаць, што спорт — частка іх іміджу. Дзяцей возяць у басейн у Мінск, зімой яны катаюцца на лыжах. Але іх вучаць і прэстыжным гульням — бейсболу, гольфу, вялікаму тэнісу... Да спорту мае прамое дачыненне праграма "Школа выжывання". Дзеці ствараюць для сябе экстрэмальныя ўмовы — трапляюць разам з выхавацелем у лес, дзе самі павінны арыентавацца і клапаціцца аб сабе.

Хлопчыкаў і дзяўчынак вучаць паводзіць сябе на фуршэце, у свецкім салоне, у транспарце і нават у супермаркеце і бюро найму. Усё гэта ў рамках праграм "Этыка, этыкет, эстэтыка" і "Тэатр жыцця".

Дзеці жывуць за горадам. Харчуюцца 6 разоў у дзень. Шмат рухаюцца. Гэта і дазваляе школе выконваць аздараўленчую функцыю. У гімназіі няма свайго памяшкання, і яна арандуе частку прафілакторыя ў прадпрыемства "Агат". Плата за арэнду забірае большую частку грошай, што плацяць бацькі. Дарэчы, матэрыяльная база гімназіі не вельмі багатая. Ёсць там адзін камп'ютэр, тэлевізар, відэамагнітафон. Кіраўніцтва гімназіі спадзяецца атрымаць у хуткім часе камп'ютэры для абсталявання спецыяльнага класа. Наогул, у кіраўніцтва вялікія планы. Найперш — пашырыць школу. Пакуль 55 чалавек — гэта максімум яе магчымасцяў. Сёлета былі набраны малодшыя класы. Але ім не хапіла месца ў школе, і дзяцей прыйшлося адправіць да бацькоў. Конкурс сярод кандыдатаў у вучні сёлета быў 4 чалавекі на месца. Так што ў школе, здаецца, ёсць і будзе каму вучыцца. Гэта радуе. Праўда, мяне больш радавала б, калі б хоць палова нашых суайчыннікаў мела магчымасць выбіраць, у якую школу аддаць сваё дзіця — у прыватную ці дзяржаўную.

**Алена СПАСЮК.**

## ТРАГЕДЫЯ, ЯКАЯ РАЗЫГРАЛАСЯ ПАЎСТАГОДДЗЯ НАЗАД





**Вайна ў вёску Боркі, што на Брэстчыне, прыйшла рана. Ужо ў першыя дні яна аказалася пад акупантамі. Праўда, многія дарослыя мужчыны і юнакі паспелі адысці — хто, стаўшы байцом Чырвонай Арміі, хто ўліўся ў атрады партызан. У вёсцы засталіся жанчыны, старыя, дзеці.**

**Восенню 1942 года жыхары Борак завяршалі сельскагаспадарчыя работы: выкапалі бульбу, заканчвалі ўборку буракоў. Пасля першага дажджу зазеленела рунь. Але дачакацца новага ўраджаю боркаўцам не прыйшлося.**

**Восеньскаю раніцай фашысцкія карнікі акружылі вёску і пачалі расправу. Усяго было расстраляна і спалена больш сямісот чалавек, у асноўным жанчын і дзяцей. У чым правінаваціліся гэтыя людзі?.. У адным: дапамагалі народным мсціўцам, баранілі свой гонар, змагаліся за зямлю, на якой жылі многія стагоддзі, не жадалі стаць рабамі.**

**Цяпер Боркі — невялікая вёсачка. Размешчана на самай граніцы з Украінай. Дамоў тут значна менш, чым было да вайны. І ўжо далёка не ўсе жыхары могуць ва ўсіх дэталях, падрабязна расказаць аб трагедыі, якая разыгралася тут больш за пяцьдзесят гадоў назад. І толькі помнік на брацкай магіле заўжды будзе нагадваць аб тым далёкім чорным дні.**

**НА ЗДЫМКАХ: сіратою пакінуў верасень сорак другога Настассю ГРАЧОНАК. Старая і цяпер жыве ў Борках з незагойнай ранай на сэрцы, з незагойным смуткам аб загінуўшых родных і аднасяльчанах; на брацкай магіле.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

ІХ РАДЗІМА — БЕЛАРУСЬ

## ПАД ЗНАКАМ БУСЛА

На ўсходзе Беларусі, у маляўнічай, густа пакрытай лясамі Магілёўшчыне, у гарадку Дрыбін, што за 60 кіламетраў ад слыннай партызанскай Оршы, у вялікай яўрэйскай сям'і шаўца Саламона Дамэшака нарадзіўся хлопчык. Ды такі ўжо прыгожанькі кучараўчык, што ягоная маці, Бася Аронаўна, пасля нялёгкіх родаў, калі пабачыла сыночка, пасміхнуўшыся, сказала мужу:

— Будзе табе, Саламоне, і абаронца, і памочнік, а мне — пацеха. Глянь, ужо і ручкі прасцірае да цябе.

А Саламон толькі пасміхаўся, баючыся дакрануцца да немаўляці сваімі загрубелымі рукамі. Перад яго вачыма, быццам хмары напрадвесні, плылі пражытыя з Басяю гады. Як кахаліся, як шанавалі адзін аднаго, як дзялілі цяжкасці сумеснага жыцця. І вось прыйшло шчасце — сын.

— Ведаеш, Баська, — на хвіліну страпянуўся ад задуменнасці, — а наш хлапчук будзе шчаслівым, бо калі сёння ішоў да цябе, то вельмі ўжо шмат кружляла над Проняю буслоў. А гэта добры знак.

— Дай Божа, — адказала жонка, — але ў свеце так неспакойна, Саламонку...

Вось так і жылі Дамэшакі пад добрым знакам буслінага клёкату і трывожнымі сполахамі кананад XX стагоддзя. Неўзабаве ў сям'і з'явіліся сын Натан і дачка Анюта. Іх было ўжо пяць. Але такі праўду казаў Саламон: ва ўсім шчасціла Навуму. У школе — выдатнік, у грамадскім жыцці — актывіст, сярод сяброў — надзейны і добразычлівы. Досыць толькі перагарнуць сямейны альбом Дамэшакаў, каб пераканацца ў гэтым.

— А ведаеце, спадар Пятрусь, з усяго нашага класа з хлопцаў у жывых на сёння застаўся толькі я, — няпрошаная сляза пакацілася з вока, — толькі я... — Навум Саламонавіч борздзенька дрыжачымі рукамі дастае з кішэні хусцінку і выцірае слёзы — слёзы памяці. Але за час нашае размовы ён яшчэ неаднойчы карыстаўся гэтай хусцінкай: слёзы раз-пораз цяклі з ягоных вачэй, якія за 70 гадоў жыцця нагледзеліся ўсяго ўдосталь: і добрага, і злога.

— А вы да вайны кахалі каго-небудзь? — пытаюся ў спадара Навума, каб хоць на хвілінку адцягнуць ягоныя думкі ад балючых успамінаў.

— Кахаў — гэта не тое слова. Я яе абагаўляў.

...Зінаіда Кіпакова пасеяла ў душы Навума зерне бяссонніцы яшчэ ў 8-м класе. Хто не ведае, што гэта такое, проста чалавек без сэрца. Увесь вялікі свет для юнака ператварыўся ў вось гэтую квяцістую сукеначку, русыя валасы, што, быццам хмарка, беглі ўслед за ёю, бяздонныя вочы дзяўчыны, што сніліся яму начамі. Колькі вечароў правялі яны разам на беразе ціхай Проні, колькі зорак зазірала ім у вочы, колькі хваляў нашэптвала ім вечныя словы кахання!

Але ўжо недзе за кардонам разварочваліся палкі і дывізіі вермахта, у паветры запахла порахам. Навум працягваў вучобу, марыў стаць, як ягоны дзядзька, марскім афіцэрам. Ішоў 1941 год, год заканчэння школы, год пачатку Вялікай Айчыннай вайны з фашысцкай Германіяй.

...У суботу, 21 чэрвеня, у школах — выпускны баль.

**(Заканчэнне на 4-й стар).**



Ужо больш года працуе ў адным са старадаўніх асабнякоў на вуліцы Камсамольскай у Баранавічах польскі клуб. Тут праводзяць вольны час палякі, што жывуць у горадзе. Сюды прыходзяць пажылыя і зусім юныя, іншы раз сем'ямі. У клубе дасканала вывучаецца мова, культура, звычаі народа.

Члены польскай дыяспары не замыкаюцца ў сваім коле. Яны часта сустракаюцца з гараджанамі, выступаюць з канцэртамі. Сёлета клуб наведаў прэзідэнт Польшчы Лех Валенса. А зусім нядаўна чыгуначнікі суседняй краіны падарылі клубу больш 20 тысяч экземпляраў польскіх кніг.

НА ЗДЫМКУ: кіраўнік клуба Тэрэза СЕЛІВОНЧЫК (у цэнтры) разглядае з дзецьмі падараваныя кнігі.

Фота Э. КАБЯКА.

*ВОДГУЛЛЕ*

# КАГО БОЛЕЙ ПАВАЖАЦЬ?

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Вялікае вам дзякуй за змешчаную на старонках вашае газеты (нумар 38 гэтага года) "Прамову, не сказаную на з'ездзе" Мацея Канапацкага. У ёй закранаецца вельмі важнае пытанне, асабліва для такіх народаў, як беларусы (або таксама ўкраінцы), якія пачынаюць аднаўляць сваю дзяржаўнасць.

Варожы лёс яе зруйнаваў, але трэба прызнаць шчыра, што нават непрыхільны нашым народам лёс не пасмеў бы так жахліва з нас здзекавацца, калі б мы яму самі (і неаднойчы) не памаглі. Найбольшае ліха бяздзяржаўных народаў — гэта недахоп еднасці, які адмыслова яшчэ "культывавалі" ў іх чужаземныя захопнікі, каб іх дзяліць і над імі панаваць. Цалкам слушна таму гаворыцца ў "Прамове", што не павінна быць падзелу між патрыётамі Беларусі "па крыві". Вызначальны тут ёсць дух. Гэта цудоўна, што сярод людзей, адданых Беларусі, ёсць і палякі, і рускія, і літоўцы, і шмат прадстаўнікоў іншых народаў (нават рас). У гэтым сведчанне прыцягальнасці, моцы беларускай культуры. Імкнуцца да яе яны ж толькі за поклічам сэрца. Усе яны заслугоўваюць прызнання і павагі з боку "чыстакроўных" беларусаў. Больш таго. Лічу, што нашай большае павагі заслугоўвае той, хто рупліва працуе на карысць Беларусі (хоць і не зусім беларускага паходжання або і зусім не беларус), чым той, хто можа ганарыцца толькі чыста беларускім радаслоўным дрэвам, але цалкам абыякавы (калі не горш) да долі свае роднай краіны. Калісьці здарылася прачытаць аб адным беларусе (напэўна, нягодным мець гэтае імя), які быў "аўтарам" такой прапановы, каб усё найлепшае з беларускай літаратуры перакласці на рускую мову, а потым усе беларускія кніжкі... спаліць і больш іх, вядома, не выдаваць... Дык вось запытаемся ў сябе, каго мы болей маем паважаць — такога "беларуса" ці, напрыклад, Змітрака Бядулю, яўрея паводле паходжання, які аддана служыў беларускай культуры (сябраваў, між іншым, з Максімам Багдановічам) і ўзбагаціў беларускую літаратуру цудоўнымі творамі (з вельмі прыгожаю, сакавітаю беларускаю мовай)? Зразумела, што і "дрэнным" беларусам не варта адразу абвяшчаць вайну. Магчыма, тут віна акалічнасцяў, а не чалавека, што той-сёй, не ведаючы належна беларускай мовы, беларускай літаратуры, гісторыі, належна іх не можа таксама ацаніць. Іншы раз варты ён больш спагады, ніж пагарды. Яго невуцтва — духоўная хвароба, ад якой патрэбны лекі. Цярплівасць, добразычлівасць, крыху ведаў, і ён пазбавіцца гэтай духоўнай слепаты. Найважнейшая мэта цяпер — імкнуцца да лепшае долі для Беларусі, да яе незалежнасці, помнячы, што незалежнасць Беларусі патрэбна не толькі ёй самой, а ўсім яе суседзям, усёй Еўропе, а значыць і ўсяму свету. Каб гэта зразумець, не трэба асобай дальнабачнасці. Расійская імперыя (пад кожнай назвай) даўно ўжо стала ворагам не толькі Еўропы, але таксама рускага народа (хоць яшчэ не кожны рускі, на жаль, гэта разумее). Прыяднанне Беларусі да Расіі не дапамагае самой Расіі і рускаму народу, яно толькі рэанімуе імперыю. А імперыя — гэта тэрор супраць уласнага народа, агрэсія супраць іншых народаў, якія не дадуць Расіі засяродзіцца на ўласных праблемах. Імперская будучыня для Расіі — гэта вечныя ваенныя авантуры, вечны прыгнёт для сябе, такім чынам, у перспектыве зруйнаванне і крах уласнае дзяржавы. Адмова ад імперскасці, наадварот, гэта магчымасць уздыму эканомікі і культуры Расіі, гэта значыць у перспектыве яе росквіт. А таму нядобрую справу робіць і Беларусі, і Расіі, і свету той, хто спяшаецца (паперад бацькі ў пекла) прылучыцца да Расіі. Чаму тады не прылучаецца да Расіі або хоць да суседняй Германіі такая краіна, як Данія? Яна ж значна меншая ад Беларусі, і людзей там меней, і прыродных багаццяў, а жывуць жа людзі (і дай Бог кожнаму так жыць)? І дацкую мову не трэба так ратаваць, як беларускую... Дзяржаўная і шанаваная. А таму яны так жывуць (і на ўсе бакі не аглядаюцца, пад чыё б панаванне папрасіцца), што гаспадараць разумней (тады і прасіцца ні да кога ў прымы не трэба). А каб хутчэй набрацца таго розуму, ізноў-такі трэба еднасці: чым больш будзе людзей, неабыякавых да лёсу Беларусі, тым хутчэй будзе знойдзена выйсце.

На заканчэнне дазволю сабе прывесці па-ўкраінску адну вельмі важную малітву. Завецца яна па-ўкраінску "Молітва за єдність" (Малітва за еднасць):

**Віслухай, Боже, благання —**
**Нищить недоля наш край —**
**В єдності сила народу,**
**Боже, нам єдність подай.**

**Боже, здійми з нас кайдани,**
**Не дай загинуть в ярмі,**
**Волю пошли Україні,**
**Щастя і долю дай їй.**

Яна надзвычай актуальная і для Беларусі, а таму я вырашыў пераапрануць яе ў беларускае адзенне, каб яна адносілася і да Беларусі. Выбачайце за недахопы (вершаваць па-беларуску мне досыць цяжка):

**Выслухай, Божа, маленне —**
**Нішчыць нас ліха штогод —**
**Сіла народа ў яднанні,**
**Божа, з'яднай наш народ.**

**Божа, здымі кайданы з нас.**
**Загінуць рабамі не дай,**
**Волю пашлі Беларусі,**
**Зрабі шчаслівым наш край.**

**З шанаваннем А. ТКАЧЭНКА.**

Украіна.

# ПАД ЗНАКАМ БУСЛА

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

— Атэстат сталасці і залаты медаль уручаюцца Навуму Дамэшаку, — урачыста гучаць словы дырэктара школы.

— Гэта табе, — цёпла падштурхоўвае яго Зінаіда. — Вітаю! — і яе вочы, быццам два невялікія азярцы, ззяюць шчасцем.

А на наступны дзень, 22 чэрвеня 1941 года, над Оршаю закружылі чорныя крукі фашысцкіх самалётаў. А яшчэ праз дзень Навуму споўнілася 18 гадоў. Вось такі збег гісторыі, вось такая доля: у сям'ю Дамэшакаў з'явіўся з павесткай райваенкамата веставы. Нічога на гэта не сказала Бася, прамаўчаў Саламон, толькі сястрычка Аня шчыра войкнула:

— Дык ты, Навум, будзеш салдатам?

А над Проняю заліваліся салаўі, ззялі зоркі. Яны стаялі ўдваіх. Зіна маўчала, прыгарнуўшыся да яго пляча. А раніцою была дарога, у якую разам з бацькамі, братам і сястрою яго праводзіла каханая дзяўчына. Дарога на вайну...

...Вайсковую форму ён апрануў у запасным палку пад Саратавам, дзе вывучаў кулямёт Макарава, вучыўся страляць з яго. З цягам часу байцоў перакінулі на раку Міус, што ў Данбасе, дзе трымала абарону 395-я шахцёрская дывізія.

З пачаткам летняга наступлення на Сталінград дывізія вяла жорсткія баі за Растоў-на-Доне. Тут атрымаў радавы Дамэшак першае баявое хрышчэнне. З цягам часу ён стаў асабістым сакратаром камісара палка. У кубанскіх стэпах у баях супраць гітлераўцаў Навум Саламонавіч атрымаў сваю першую ўзнагароду — медаль "За адвагу".

У верасні 1942 года дывізія падышла да перадгор'я Каўказа і заняла абарону паблізу Туапсэ. Тут яна гераічна ўтрымлівала пазіцыі ў даліне рэчкі Псекупс, тым самым выратавала Туапсэ ад фашысцкай акупацыі, спыніла прасоўванне фашыстаў у глыбіню Каўказа. Напярэдадні штурму фашысцкіх рубяжоў неабходна было захапіць "языка". У групу разведчыкаў быў прызначаны і Навум Дамэшак. Дабіраліся да пярэдняга краю праз плаўні, па пояс у халоднай вадзе. Удала захапілі "языка", вярталіся на свае пазіцыі. Раптам услед ім загрукацелі разрывы снарадаў, засвісцелі над галовамі кулі: немцы выявілі групу і адкрылі шалёны агонь. Шмат байцоў навечна палягло ў гэты дзень у кубанскіх плаўнях. Атрымаў раненне і Навум Дамэшак... Пад уплывам уражанняў гэтага бою Навум піша ў газету "Красный воин" заметку. Яе надрукавалі, і гэта стала пераломным момантам у далейшым жыцці Навума Саламонавіча Дамэшака: ён стаў супрацоўнікам дывізіённай газеты... Неўзабаве дывізія была перакінута пад Жытомір і ўвайшла ў склад І Украінскага фронта.

...Яму часта сніліся родныя беларускія краявіды, маці з бацькам, ціхая затока Проні, Зіна. Як жа хацелася яму хоць краем вока пабачыць іх... Ведаў, што гэта немагчыма, але хіба загадаеш сэрцу?! Ён шмат чытаў, сам бачыў наяве зверствы фашыстаў, але недзе ў глыбіні душы спадзяваўся, што бяда абыдзе яго родных і блізкіх, яго ціхі гарадок на Проні Дрыбін. Але не, не абышла.

— Пра гора, што напаткала маю сям'ю, даведаўся толькі пасля вайны, — успамінае ветэран вайны і працы, і зноў па шчацэ цячэ няпрошаная сляза. — Прабач, Пятрусь, але без слёз не магу аб гэтым прыгадваць.

... Маці Навума Дамэшака, сястру Аню і брата Натана, як і іншых яўрэяў Дрыбіна, пасадзілі на падводы, каб адвезці на расстрэл. Плач, крыкі дзяцей, праклянце маціарок суправаджалі гэтую трагічную працэсію. Маці, быццам бы тая квочка, прыгарнула да сябе дзетак, супакойвала іх, хоць сэрца разрывалася ад болю. Тут да падводы падскочылі паліцаі, каб аблягчыць яе, бо была перапоўнена. Яны схапілі Аню і пачалі вырываць з матчыных рук. Сілы былі няроўнымі, але Бася трымала дачку, што было моцы. Гэта раззлавала паліцаяў, і яны, вырваўшы дзяўчынку, кінулі яе на зямлю. Аня ад удару страціла прытомнасць.

— Гатова, — сказаў адзін з паліцаяў, падышоўшы да распасцёртага цела.

Падводы пасунуліся далей. А да Анюты вярнулася свядомасць, і яна вырашыла дабірацца ў гарадок. Яна ішла і думала: "Скажу прама ў вочы каменданту: вы ўсіх яўрэяў расстралялі, маму і братку забілі, забіце і мяне". Але калі яна, ледзь не падаючы з ног ад знямогі, увайшла ў гарадок, яе сустрэў настаўнік Аднавалаў. Ён супакоіў дзяўчынку, даў параду ўцякаць, прабірацца да партызан. Аня так і зрабіла. Але па дарозе нясцерпны голад прымусіў яе зайсці ў адну хату, каб папрасіць чаго-небудзь з'есці. Так лёс звёў яе з беларускай сялянкай, якая, па сутнасці, стала для яе другой маці. Цётка Надзя ўсе доўгія гады акупацыі абараняла дзяўчынку ад злога вока. А Саламон Дамэшак, бацька Навума, тым часам знаходзіўся ў фашысцім канцлагеры, куды трапіў, як тысячы салдат, у часе акружэння пад Смаленскам. Ён мужна, стойка, як таго і патрабуе яго імя, выцярпеў усе жахі канцлагера і выжыў.

— Бацьку свайго і маю дарагую сястрычку я адшукаў пасля вайны гадоў праз пяць.

Пасля заканчэння вайны шахцёрскую дывізію расфармавалі, але Навум Дамэшак працягваў працаваць у дывізіённай газеце, а летам 1947 года яго накіравалі ў 3-ю кавалерыйскую дывізію, што дыслацыравалася ў Ізяславе. Менавіта з 1947 года звязаў сваё далейшае жыццё ўраджэнец Беларусі Навум Дамэшак з гэтым прыгожым куточкам украінскай зямлі.

...Пасля дэмабілізацыі з арміі Навум Саламонавіч аж да выхаду на пенсію працаваў карэспандэнтам раённай газеты "Колгоспнэ життя" (зараз яна называецца "Зоря над Горынню"). Завочна скончыў факультэт журналістыкі Кіеўскага універсітэта, авалодаў дасканала яшчэ адной мовай — украінскай, бо на ёй выдавалася і выдаецца далей газета для горада і раёна. Я асабіста ўпершыню пазнаёміўся з Навумам Саламонавічам у 1982 годзе, калі пераступіў парог рэдакцыі газеты на Кавальскай, 3: прынёс свой нарыс. Навум Саламонавіч па майму акцэнту адразу пазнаў земляка, вельмі быў рады гэтаму, паміж намі ўсталяваліся шчырыя, нават сяброўскія адносіны. Было прыемна тут, у самым сэрцы Украіны, паразмаўляць з суайчыннікам на роднай беларускай мове! Навум Саламонавіч, хаця і яўрэй, але беларускую мову лічыць сваёй роднай, на ёй ён і школу ў Дрыбіне закончыў. Беларусь ён лічыць сваёй радзімай, жадае ёй працвітання, шчасця народам Беларусі.

...З цікавасцю слухаў Навум Саламонавіч мой аповяд пра Першы з'езд беларусаў свету, які адбыўся ў Мінску ў ліпені гэтага года. І калі я падзяліўся з ім сваёй задумай аб стварэнні ў горадзе таварыства беларускай культуры "Зорка Венера", ён мяне горача падтрымаў, даў згоду стаць актыўным членам таварыства, а таксама залучыць да работы ў таварыстве беларусаў, яўрэяў, украінцаў, якія цікавяцца беларускай культурай, гісторыяй, хочуць навучыцца беларускай мове... Слова Навума Саламонавіча ў жыхароў горада і раёна мае вялікі аўтарытэт, і я нават не сумняваюся, што разам з Навумам Саламонавічам мы абавязкова здзейснім задуманае. Дай толькі Божа гэтаму 70-гадоваму ветэрану яшчэ доўгіх год жыцця, моцнага здароўя, аптымізму духу. Як і ўсім нам, нашым суайчыннікам на Радзіме, у розных краінах свету.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў, Украіна.

АД ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ ПАЧЫНАЕЦЦА...

# ПУЦЯВОДНАЯ ЗОРКА БЕЛАРУСАЎ

У ЕВАНГЕЛЛІ ёсць цудоўная прытча пра сейбіта, які ранняй вясной выйшаў у поле, каб даверыць зямлі каштоўнае зерне будучага жніва. Ідзе сейбіт па рыхлых свежых барознах і старанна рассейвае насенне. Частка зерня падае пры дарозе, частка — на камяністую глебу ці зямлю, зарослую калючкамі. Але тое, што ўпала на добрую глебу, дасць у сто разоў багацейшы ўраджай.

Вось такім першым вялікім сейбітам духоўнага насення — сярэдневяковай духоўнай культуры, хрысціянскага веравучэння, дасягненняў еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі на старабеларускіх землях была наша славутая асветніца — князёўна Прадслава з слаўнага горада Полацка, якая на заранку нашай пісанай гісторыі ў XII стагоддзі ў поўную меру ацаніла выдатную ролю асветы ў жыцці народа і аддала гэтай справе ўсе свае выдатныя здольнасці і сілы без астатку.

Полацк быў самым буйным горадам Беларусі таго часу. З глыбокай старажытнасці ён вядомы як буйнейшы цэнтр рамяства і гандлю. Ужо ў VIII стагоддзі тут вёўся гандаль з арабамі, а пазней пачаліся ажыўленыя гандлёвыя адносіны са Скандынавіяй і востравам Готландам. Сведчаннем таму з'яўляюцца скандынаўскія сагі, у якіх пастаянна ўпамінаецца Полацк.

Першыя звесткі пра Полацк у старажытнарускіх летапісах адносяцца да 862 года. Так, у "Повести временных лет" сказана: "В лето 862 власть прия Рюрик ...и раздая мужем своим грады: овому Полотеск, овому Ростов, другому Белоозеро".

Ранні рост і працвітанне горада перш за ўсё тлумачыцца яго выключна выгадным для таго часу геаграфічным становішчам. Па сутнасці горад стаяў на адным з самых ажыўленых у старажытнасці водных шляхоў — шляху "з вараг у грэкі", які праходзіў па Заходняй Дзвіне да Полацка і адтуль па Бярэзіне і Дняпру да Чорнага мора.

Не менш важнае значэнне для горада мела і водная дарога па Заходняй Дзвіне ад Полацка на ўсход, да Віцебска і далей да Смаленска, у глыб рускіх зямель. Усё гэта давала магчымасць Полацку, з аднаго боку, весці шырокі гандаль з Візантыяй, з другога — падтрымліваць інтэнсіўныя гандлёвыя сувязі з Масквой.

Разам з эканамічным развіццём горада адбывалася і ўзмацненне яго палітычнай ролі як сталіцы Полацкага княства. У XI стагоддзі вядомы полацкі князь Усяслаў (1044—1101), які ўпамінаецца ў "Слове аб палку Ігаравым", канчаткова парваў з Кіевам і стаў поўнасцю самастойным. Пры ім Полацкае княства ўступіла ў паласу росквіту.

Эканамічны і палітычны ўзлёт Полацкай зямлі суправаджаўся значнымі дасягненнямі ў галіне культуры. У прыватнасці, у сярэдзіне XI стагоддзя (1044—1066 гады) на крутым беразе Заходняй Дзвіны з'явіліся велічны Сафійскі сабор, шэраг іншых культавых будынкаў. У гэты ж час у Полацку, як і ў іншых значных культурных цэнтрах Кіеўскай Русі, адкрываюцца першыя школы і вучылішчы.

Палітыку князя Усяслава Брачыслававіча па ўмацаванню палыскі беларускай дзяржаўнасці і культуры працягнуў яго малодшы сын Святаслаў (у хрысціянстве Георгій). Менавіта ў яго сям'і ў пачатку XII стагоддзя і нарадзілася дачка, якой суджана было стаць адной з самых славутых гераінь беларускай гісторыі. Нованароджанай далі язычніцкае славянскае імя — Прадслава.

Дакладная дата нараджэння Прадславы невядомая. Супастаўляючы розныя ўскосныя даныя, адна частка вучоных лічыць датай яе нараджэння 1101 год, а другая сцвярджае, што яна нарадзілася паміж 1104—1106 гадамі. Другі пункт гледжання здаецца больш пераканаўчым.

Бацькі Прадславы былі па тым часе перадавымі адукаванымі людзьмі. Яе бацька некаторы час жыў у Візантыі, дзе пазнаёміўся з дасягненнямі візантыйскай культуры. Яе маці — сястра візантыйскага імператара Мануіла Комніна (1143—1180) (другое напісанне прозвішча — Камнена) таксама была высокаадукаваным чалавекам.

Бацькі пастараліся даць дачцэ добрае хатняе выхаванне, якое прадугледжвала і навучанне грамаце, што ў часы Кіеўскай Русі сярод жанчын было надзвычайнай рэдкасцю. "Жыціе" нашай гераіні, напісанае ў больш познія часы, расказвае, што ўжо ў раннім дзяцінстве яна была вучана "кніжнаму пісанню", якое ўключала такія прадметы, як чытанне, пісьмо, лічэнне, спевы, а таксама грэчаская і лацінская мовы. У працэсе навучання Прадслава праявіла вялікія здольнасці. Акрамя таленавітасці, яна ўражвала таксама бацькоў і ўсіх, хто яе акружаў, незвычайнай прыгажосцю.

Вестка аб тым, што ў князя ў Полацку расце прыгожая, мудрая і набожная князёўна, разышлася далёка за межы Полацкай зямлі. З усіх канцоў Кіеўскай Русі ў Полацк зачасцілі сваты. Бачачы, што сватаўство прыносіць любімай дачцэ многа горычы, гасцінны полацкі князь, праводзячы гасцей, гаварыў з паклонам, што дачка яшчэ маладая і да пары да часу няволіць яе не стане. Але ў рэшце рэшт і ён вымушаны быў уступіць...

Даведаўшыся, што яе хочуць заручыць з адным маладым князем, Прадслава тайна ад бацькі і маці і ад усіх дамашніх пайшла з бацькоўскага дому ў манастыр, ігуменняй якога была яе цётка Раманья, і вырашыла пастрыгчыся ў манахіні. Цётка, бачачы юны ўзрост сваёй пляменніцы ды апасаючыся гневу роднага брата — князя Георгія, спачатку праціўлялася яе жаданню. Але адчуўшы непахісную волю пляменніцы, вырашыла прыняць яе ў манастыр. Пры пастрыжэнні ў манахіні Прадслава, як сказана ў яе "Жыціі", атрымала імя Ефрасінні; "И огласил ю (г. зн. яе. — **В.Ш.**) иерей и остриже ю и нарече имя ей Евфросинья и облече ю в черные ризы".

Пры пастрыжэнні ў манахіні Ефрасінні Полацкай было крыху больш за 12 гадоў. Гэтая падзея магла адбыцца не раней 1117 года, таму што Раман Васільевіч — муж цёткі Раманы памёр у 1116 годзе, пасля чаго яго жонка і пайшла ў манастыр. Дададзім, што манастыр, ігуменняй якога была цётка Ефрасінні, знаходзіўся ў цэнтры Полацка, у Верхнім замку, паблізу (ці на тэрыторыі) Сафійскага сабора.

Юная князёўна пераступіла парог манастыра не толькі і не столькі дзеля таго, каб цалкам праводзіць жыццё ў малітвах і пастах, а гэтак жа разам са старэйшымі манахінямі пакорліва ўдзельнічаць у нялёгкай манастырскай працы. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што яе прывяло сюды жаданне поўнасцю прысвяціць сябе навуцы і асветніцтву, імкненне дасканала авалодаць тагачаснай кніжнай мудрасцю і перадаць гэтую мудрасць іншым людзям. Гэты занятак захапляў яе з ранняга дзяцінства, і манастыр у той час быў адзіным сродкам для рэалізацыі падобнай жыццёвай мэты.

Таму ўчынак юнай полацкай князёўны не варта тлумачыць толькі матывамі рэлігійнага фанатызму, як гэта пастаянна назіраецца ў публікацыях, прысвечаных Ефрасінні Полацкай. На гэты крок княжацкую дачку штурхнула поўная адсутнасць магчымасці ў той час для таленавітай дзяўчыны займацца інтэлектуальнай працай, навуковай, асветніцкай, педагагічнай дзейнасцю. Іншага шляху для гэтага, акрамя сцен манастыра, у той час, калі нават элементарная адукацыя сярод жанчын лічылася залішняй і непатрэбнай, проста не існавала. І гэты адзіны шлях без ваганняў, цалкам адмовіўшыся ад асабістага жыцця, выбрала наша першая жанчына-асветніца, вучоны, педагог, філосаф, наша першая жанчына-інтэлігент.

Неўзабаве пасля свайго пастрыжэння ў манахіні Ефрасіння дабілася ад тагачаснага полацкага епіскапа Іллі дазволу пасяліцца ў прыбудаванай да Сафійскага сабора келлі і там поўнасцю аддалася самаадукацыі: чытанню, разважанню, малітвам. У адзіноце і цішы яна ўзмоцнена збірала "благие мысли в сердце своем, око пчела мед у соты".

Прадметам яе чытання і разважання былі перш за ўсё Біблія, перакладзеная ў IX стагоддзі на славянскую мову Кірылам і Мяфодзіем, а таксама розныя зборнікі ("Ізборнікі"), складзеныя з твораў рэлігійна-маральнага і філасофскага зместу, урыўкаў з прац айцоў і настаўнікаў царквы. Гэта перш за ўсё быў "Залатаструй", складзены ў IX стагоддзі балгарскім царом Сімяонам, які ўключаў у сябе ўрыўкі з гутарак Іаана Златаўста; "Шасціднеў", складзены балгарскім экзархам Іаанам, што змяшчаў тлумачэнні першых раздзелаў Бібліі; "Ізмарагдам", зборнік урыўкаў з прац Васіля Вялікага, Іаана Златауста, Грыгорыя Багаслова і інш. Гэта былі таксама розныя "Пацерыкі" (так зваліся зборнікі, што змяшчалі жыціі святых), а таксама непасрэдна творы саміх айцоў і настаўнікаў царквы.

Скарыстоўваючы блізкае сваяцтва полацкага княжацкага дома з домам візантыйскага імператара (да выкладзеных вышэй фактаў дададзім, што родная цётка Ефрасінні, сястра яе бацькі Георгія, была жонкай сына візантыйскага імператара Аляксея Комніна), юная асветніца з кніг, што атрымлівала з Канстанцінопаля, сфарміравала багатую асабістую калекцыю, якая легла ў аснову унікальнай бібліятэкі пры полацкім Сафійскім саборы. З цягам часу бібліятэка пры полацкай Сафіі (пастаянна папаўняючыся самымі рэдкімі кнігамі і рукапісамі) стала сапраўдным духоўным скарбам усходнеславянскіх зямель, выклікаючы захапленне як у сучаснікаў, так і ў наступных пакаленняў. Пра гэта, у прыватнасці, сведчаць "Запіскі аб Маскоўскай вайне", якія належаць пяру сакратара польскага караля Стэфана Баторыя — Рэйнгольду Гейдэнштэйну. Расказваючы аб узяцці польскімі войскамі Полацка ў 1579 годзе, Р. Гейдэнштэйн піша, што салдаты Стэфана Баторыя — палякі, венгры і немцы — любой цаной імкнуліся пранікнуць у Полацкі замак, каб захапіць казачныя скарбы, што захоўваліся там у Сафійскім саборы. Аднак калі армія С. Баторыя ўступіла ў Верхні замак, то "ў вачах адукаваных людзей, — пісаў Р. Гейдэнштэйн, — амаль не меншую каштоўнасць, чым уся астатняя здабыча, мела знойдзеная там бібліятэка. Акрамя летапісаў, у ёй было многа сачыненняў грэчаскіх айцоў царквы, і між імі творы Дзіянісія Арэапагіта "Аб нябеснай іерархіі" і "Аб царкоўнай іерархіі", **усё на славянскай мове**" (падкрэслена мной. — **В.Ш.**).

Дарэчы заўважыць, што да таго часу багацці полацкай Сафіі прыкметна паменшалі, таму што ў 1563 годзе Іван Грозны, заняўшы Полацк, вывез з Сафійскага сабора ў Маскву 300 падвод золата, серабра і іншых каштоўнасцей, сярод якіх маглі быць і кнігі.

Набыўшы шляхам самаадукацыі вялікую і грунтоўную эрудыцыю ў галіне рэлігійна-маральнай і філасофскай літаратуры, Ефрасіння Полацкая бярэцца за самае складанае і цяжкае рамяство таго часу, якое патрабавала сталай навуковай падрыхтоўкі, цярпення, мастацкіх навыкаў, — за рамяство перапісчыка кніг.

Гэты нялёгкі, але ўдзячны і неабходны для таго часу від інтэлектуальнай працы па-майстэрску апісаў Максім Багдановіч у вершы "Перапісчык":

**На чыстым аркушы, прад вузенькім акном,**
**Прыгожа літары выводзіць ён пяром,**
**Ўстаўляючы паміж іх чорнымі радамі**
**Чырвоную страку; усякімі цвятамі,**
**Рознакалёрнымі галоўкамі звяроў**
**І птах нявіданых, спляценнем завіткоў**
**Ён пакрашае скрозь — даволі ёсць знароўкі —**
**Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі**
**І загалоўкі ўсе, няма куды спяшыць!**
**Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць**
**Пяро гусінае, і гляне: светла сонца**
**Стаўпамі падае праз вузкае аконца,**
**І круціцца ў іх прыгожы, лёгкі пыл;**
**Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,**
**Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі**
**У небе ластаўкі шыбаюць над крыжамі,**
**Як жар гарашчымі, а тут, каля акна,**
**Малінаўка пяе, і стукае жаўна.**
**І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць**
**Нняркім серабром; нячутна дзень праходзіць;**
**Ўжо хутка будзе ноч, і першая гвязда**
**Благаславіць канец прыгожага труда.**

Гэтыя выдатныя радкі Максіма Багдановіча пра нялёгкую падзвіжніцкую працу сярэдневяковага перапісчыка можна поўнасцю аднесці і да нашай першай жанчыны-асветніцы — Ефрасінні Полацкай, якая, як гаворыць яе "Жыціе", "пачала пісаць кнігу сваімі рукамі".

Частка перапісаных Ефрасінняй кніг легла ў аснову манастырскіх бібліятэк Полацкага княства, што пачыналі тады фарміравацца. Другая ж частка — прадавалася, а выручаныя за іх грошы князёўна-манашка шчодра раздавала ўбогім і жабракам, якія патрабавалі міласціны.

Акрамя перапісвання кніг, Ефрасіння Полацкая займалася таксама перакладамі рэлігійна-філасофскай і маральнай літаратуры з грэчаскай і лацінскай моваў на славянскую, чым гэтак жа значна ўзбагаціла духоўную культуру нашага народа таго часу.

Ёсць усе падставы меркаваць, што ёю былі закладзены таксама асновы беларускага летапісання.

Тут зноў да месца працытаваць выдатныя радкі Максіма Багдановіча, прысвечаныя нялёгкай працы нашых першых летапісцаў, якія, бы "рупныя пчолы", імкнуліся "ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак" нашай старажытнай гісторыі апісаць усё, чаму былі сведкамі, для навучання будучых пакаленняў. Дзякуючы іх працы, мы ведаем:

**Што тут чынілася у даўныя гады,**
**Што думалі, аб чым спрачаліся тады,**
**За што змагаліся, як баранілі веру, —**
**Узнаюць гэта ўсё патомкі праз паперу!**
**І людзі зведаюць аб прадзедах сваіх, —**
**Аб горы, радасцях і аб прыгодах іх,**
**Каму маліліся, чаго яны шукалі,**
**Дзе на глыбокім дне іх крыюць мора хвалі**

Таму зусім справядліва Леў Гарошка, аўтар малавядомай у нас манаграфіі пра Ефрасінню Полацкую, што выйшла ў Парыжы ў 1950 годзе, заўважыў, што "пад яе (г. зн. Ефрасінні Полацкай. — **В.Ш.**) рукой кожная чорная літара на белым лісце пергамента (папера ў той час была яшчэ вялікай рэдкасцю. — **В.Ш.**) станавілася светлым промнем, які разліваўся цудоўным святлом і шырока разыходзіўся па беларускай зямлі".

У выніку падзвіжніцкай дзейнасці асветніцы полацкая Сафія на працягу некалькіх наступных стагоддзяў стала важным цэнтрам духоўнай культуры Беларусі. Дзякуючы заснаванай пры ёй Ефрасінняй бібліятэцы многія пакаленні палачан, жыхароў Полацкага княства змаглі атрымаць добрую адукацыю, далучыцца да духоўных скарбаў чалавецтва, не пакідаючы межаў горада і княства. Гэта сведчыць аб высокім узроўні тагачаснай духоўнай культуры Беларусі. Таму кожны, хто атрымліваў тады добрую адукацыю на радзіме, гэтак жа, як і паэт Мікалай Гусоўскі, аўтар бессмяротнай "Песні пра зубра", мог з гонарам сказаць:

**Свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх,**
**Старых і новых, кірыліцай пісаных вязкай.**

Ефрасіння Полацкая, як сведчыць яе "Жыціе", пісала і свае творы. Гэта былі перш за ўсё малітвы і павучэнні рэлігійна-маральнага зместу. Форма і стыль павучэнняў, яркі і маляўнічы, сведчаць аб несумненным літаратурным таленце іх аўтара. Прывядзём невялікі фрагмент адной з пропаведзей Ефрасінні, звернутай да манахінь Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра: "Вось сабрала я вас, як наседка куранят пад крылы свае, нібы божых авечак на пашу пасвіцца, у загадах божых і з добрым сэрцам клапачуся аб вашым выратаванні і навучаю вас, спадзеючыся ўбачыць духоўны плён вашай працы. Ужо столькі слоў навукі божай сеяла я на ніве вашых сэрцаў, але нівы гэтыя на месцы стаяць, не цвітуць дабрадзейнасцю і дасканаласцю... Малю вас, сёстры мае, станьце чыстай пшаніцай Хрыстовай і змяліцеся на жорнах малітвы, пакоры і чыстай любові, каб быць духмяным хлебам на свяце Хрыста".

Як бачым, Ефрасіння Полацкая — гэта не толькі высокаадукаваны чалавек, асветнік-падзвіжнік, ці, як пазней гаварыў Францыск Скарына, "мілоснік навукі", які вышэй за ўсё цэніць кнігі і сапраўдную вучонасць, але гэта таксама — наш першы прамоўца, прапаведнік, наш першы філосаф. Ад яе, як і ад Кірылы Тураўскага, пачынаюцца нашы традыцыі нацыянальнай філасофіі, якія праз Фроанцыска Скарыну, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага ідуць да Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы і іншых вялікіх сыноў беларускай зямлі.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

**(Заканчэнне будзе).**

*ДА 110-годдзя Вацлава ЛАСТОЎСКАГА*

# ПОСТАЦЬ ЭПОХІ ВЫСОКАГА АДРАДЖЭННЯ

Карыстаючыся новымі звесткамі з крымінальна-следчай справы Вацлава Ластоўскага, якая знаходзіцца ў Саратаўскім упраўленні Дзяржбяспекі Расійскай Федэрацыі, ёсць магчымасць удакладніць некаторыя яго біяграфічныя даныя. У Саратаў быў сасланы В. Ластоўскі ў 1931 годзе, і там яго зноў арыштавалі ў жніўні 1937-га. На рускай мове яго імя падаецца як Вячеслав, а па бацьку Устинович.

Завераную начальнікам гэтага ўпраўлення выпіску са следчай справы В. Ластоўскага нам ласкава прыслала дырэктар занальнай навуковай бібліятэкі Саратаўскага дзяржуніверсітэта Вера Арцісевіч, якая ўжо была дырэктарам бібліятэкі, калі там працаваў наш славуты зямляк. Гэта на яе запыт дало адказ Саратаўскае ўпраўленне Дзяржбяспекі Расіі.

У выніку супастаўлення біяграфічных даных са следчай справы і апублікаванай выдавецтвам "Навука і тэхніка" ў 1992 годзе яго біяграфіі ў кнізе "Возвращенные имена: сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий" (складальнік М. Токараў) разыходжанні пачынаюцца ўжо з года нараджэння. У следчай справе пацвярджаецца 1883 як год нараджэння Ластоўскага, а ў дужках даецца: "в документах встречается и 1881 г." Месцам нараджэння згадваецца не маёнтак Калеснікі, а сяло Калеснікі Дзісенскага павета і не Віцебскай губерні (як у М. Токарава), а Віленскай. Сацыяльнае паходжанне яго ўказваецца не з сям'і арандатара, а з беззямельных сялян. Згадваецца яшчэ ў справе, што Ластоўскі "католик, образование высшее (этнограф и библиограф)", але, на жаль, не называецца вышэйшая ўстанова, якую ён скончыў, калі і дзе. У выдадзенай М. Токаравым біяграфіі гэтых даных няма, і Вацлаў Ластоўскі прыгадваецца як гісторык, этнограф і пісьменнік. У газеце "ЛіМ" за 15.10.1993 года ў інфармацыі "Вечарына Ластоўскага" ён называецца публіцыстам і літаратуразнаўцам. У БелСЭ згадваецца як "гісторык і публіцыст, адзін з ідэолагаў беларускага нацыяналізму".

Не супадаюць і звесткі аб часе дзейнасці В. Ластоўскага ў БСДГ. У выдадзенай М. Токаравым біяграфіі даюцца 1906–1917 гады, а ў яго следчай саратаўскай справе згадваюцца 1902–1914 гады: удакладняецца, што ў 1919–1923 гадах ён прымыкаў да партыі беларускіх эсэраў, і падкрэсліваецца, што "БСДГ — гэта нацыянальна-дэмакратычны рух, які меў на мэце стварэнне незалежнай Беларускай дзяржавы". Далей паведамляецца, што "ў 1919 годзе ён быў абраны прэм'ер-міністрам Беларускай Народнай Рэспублікі" (урад якой пэўны час знаходзіўся ў Коўне). Там жа даецца інфармацыя, што з 1919 па 1927 год В. Ластоўскі жыў у Коўне і ўзначальваў замежную беларускую нацыянальна-дэмакратычную арганізацыю (відаць, так яны разумелі дзейнасць Рады БНР), прымаў удзел у рабоце і выступаў ад яе імя на міжнародных канферэнцыях у Жэневе, Генуі, Парыжы і Празе. Паведамляецца таксама, што... "имеются сведения о его поездке в Ватикан для встречи с главой католической церкви". І далей... "Из анкеты арестованного следует, что Ластовский В.У. в 1905 г. высылался из С.-Петербурга (видимо, за революционную деятельность), во время оккупации Белоруссии Польской армией три месяца находился в тюрьме в г. Минске". Такой інфармацыі ў біяграфічным артыкуле М. Токарава зусім няма. Адначасова ў выпісцы са следчай справы амаль цалкам не высвятляецца рэдактарская дзейнасць В. Ластоўскага, якая больш дакладна падаецца ў надрукаванай біяграфіі:" С 1909 г. в редакции "Наша ніва", в 1916–1917 гг. редактор газеты "Гоман", в 1923–1927 гг. — журнала "Крывіч". У выпісцы са следчай справы згадваецца толькі, што..." в 1925 г. являлся редактором белорусского журнала "Крывіч" і што ў маі 1927 года В. Ластоўскі вярнуўся ў Мінск.

У абодвух матэрыялах падаюцца дакладныя звесткі аб часе яго мінскага арышту ў 1931 годзе, высылцы ў красавіку ў Саратаў на 5 год і саратаўскім арышце 20 жніўня 1937 года і расстрэле ў Саратаве 23 студзеня 1938 года.

Дзіўна, але факт, што В. Ластоўскі не запісаў у асабісты лісток па ўліку кадраў, наймаючыся на працу ў навуковую бібліятэку Саратаўскага дзяржуніверсітэта, свае навуковыя працы. Таму ў выпісцы з саратаўскай следчай справы напісана: "Сведений о научной деятельности Ластовского В.У. в архивноуголовном деле не имеется". А між тым вядома (і М. Токараў гэтыя звесткі падае ў біяграфіі В. Ластоўскага ўслед за БелСЭ), што В. Ластоўскі вярнуўся ў БССР менавіта з мэтай працягваць сваю навуковую дзейнасць.

У 1927 годзе яго прызначылі дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, з 1928 года яму прысвойваецца званне акадэміка Акадэміі навук Беларусі, з 1929 года ён стаў акадэмікам-сакратаром Беларускай АН і загадчыкам кафедры этнаграфіі. Хоць сам Вацлаў Ластоўскі ў саратаўскай справе лічыць сябе толькі этнографам і бібліёграфам, але меў рацыю М. Токараў, калі ў дэфініцыі згадваў яго як гісторыка, этнографа і пісьменніка, маючы на ўвазе яго навуковую працу "Кароткая гісторыя Беларусі", выдадзеную ў Вільні ў 1910 годзе. Пазней В. Ластоўскі працуе як мовазнавец і выдае ў 1924 годзе ў Коўне "Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік". Між тым, адраджэнскія памкненні беларускіх дзеячаў пачатку XX стагоддзя патрабавалі ад іх шырокай эрудыцыі і працы ў многіх галінах ведаў. Таму В. Ластоўскі, будучы бібліёграфам, рыхтуе яшчэ і фундаментальнае навуковае даследаванне "Гісторыя крыўскай кнігі" і выдае яго ў 1926 годзе, дзе дае самы поўны па тым часе пералік і інтэрпрэтацыю помнікаў крыўскага пісьменства X—пачатку XIX стагоддзяў. І калі ён апынуўся ў ссылцы ў Саратаве, яго веды бібліёграфа сталі добрым падмуркам для стварэння навуковага бібліятэказнаўства ў навуковай бібліятэцы Саратаўскага дзяржуніверсітэта. Не выпадкова, што менавіта В. Ластоўскага прызначылі загадчыкам аддзела рэдкіх кніг, каштоўных папер і рукапісных кніг, нягледзячы на тое, што ён быў ссыльным у Саратаве. Сярод бібліятэчных калег В. Ластоўскі карыстаўся вялікай павагай, ён чытаў ім і студэнтам універсітэта лекцыі па гісторыі пісьменства, кнізе рукапіснай і друкаванай, склаў праграму тэхмінімуму навуковых ведаў для супрацоўнікаў навуковых бібліятэк, арганізаваў і правёў 17 мая 1935 года навуковую канферэнцыю "Аб метадах апрацоўкі рукапісных, рэдкіх і каштоўных кніг", на якой сам выступіў з галоўным дакладам "Гістарычны экскурс у развіццё пісьменства, алфавіта і кірылаўскай граматнасці". Як сказала В. Арцісевіч: "Па тым часе яго даклад быў новым словам у галіне гісторыі сусветнага пісьменства, кнігазнаўства і бібліятэказнаўства". Дзякуючы і яго навуковым напрацоўкам, ужо пазней бібліятэка Саратаўскага універсітэта змагла выдаць свой Каталог палеатыпаў, сярод якіх ёсць і два выданні нашага славутага першадрукара Ф. Скарыны. Мы можам цяпер сцвярджаць, што ў пачатку XX стагоддзя Беларусь мела вельмі прафесійнага бібліёграфа і бібліятэказнаўцу.

Такім чынам, В. Ластоўскі і ў ссылцы займаўся любімай справай — гісторыяй кнігі, працаваў самаахвярна, ахвотна дзяліўся сваімі ведамі, нёс іх людзям, робячы ўклад сваёй плённай працай і ў культуру рускага народа. І гэты факт абвяргае сцвярджэнні сталіністаў, што ён быў зацятым беларускім нацыяналістам і "процiпастаўляў беларускі народ рускаму"... (БелСЭ, т. 6, с. 267).

Свае веды этнографа В. Ластоўскі праявіў, працуючы дырэктарам Дзяржаўнага музея БССР. Як сцвярджае дачка Язэпа Дылы Ганна, якая і цяпер жыве ў Саратаве, Ластоўскі вельмі замілавана ставіўся да сваёй працы. Ён сам шукаў па вёсках Беларусі экспанаты для музея і вельмі радаваўся, калі знаходзіў прыгожую народную вопратку, посцілку, ручнік, посуд. Збіраў у цэрквах рэдкія кнігі і прывозіў іх у музей. Аб сваіх знаходках ён усхвалявана распавядаў, калі наведваў сям'ю Язэпа Дылы (яны сябравалі сем'ямі). А дачка Я. Дылы Ганна ўсё гэта чула, бачыла, як радасна свяціліся вочы Вацлава Юсцінавіча пры ўспамінах пра свае знаходкі. Са слоў яе перад намі паўстае яшчэ і постаць апантанага фалькларыста.

"Ён не толькі апантана збіраў кнігі, што было яго навуковым хобі, але і вёў гутаркі са старымі ў вёсках, запісваў іх успаміны аб мінуўшчыне, вельмі цікавыя з яго пункту гледжання, — гаварыла мне дачка Дылы. — У Ластоўскага заўжды былі цікавыя (сумныя і жартаўлівыя) гісторыі з яго жыцця, якія ён любіў пры аказіі апавядаць сваім блізкім і знаёмым. Увогуле ён быў гаваркім і жвавым субяседнікам. Мог па-майстэрску, як актор тэатра, распавядаць розныя гісторыі, якія выглядалі як маленькія аповесці.

Аднойчы бацюшка не пусціў Ластоўскага ў царкву, таму што там стаяла труна з дзяўчынай, якую павінны былі адпяваць. Аднак Ластоўскі настаяў, і святар пусціў яго ў алтарную частку, дзе былі кнігі, а сам пайшоў з царквы. Вацлаў паглыбіўся ў гартанне кніжак, але пачуў нейкія ўздыхі ў царкве. Ён прыслухаўся, зазірнуў у памяшканне царквы, але там нікога не было. Праз некаторы час уздых паўтарыўся. Ён выйшаў з алтарнай часткі і ўбачыў, што дзяўчына ўстае з труны. Вацлаў Юсцінавіч кінуўся бегчы ў хату святара. Той не паверыў яму, але ўзяў царкоўнага вартаўніка, і ўтрох яны пайшлі ў царкву. Дзяўчына была жывой, таму што ў яе скончыўся летаргічны сон.

У такіх выпадках слухачы смяяліся і не верылі гэтай гісторыі, а Ластоўскі казаў: "Вам смешна, вы не верыце, а я, здаровы мужык, вельмі перапалохаўся ў той час".

Ці вось такі выпадак з ім здарыўся. Падыходзіць Ластоўскі да вясковай хаты, каля якой стаіць стары і плача, а другі стары сядзіць на лаўцы каля той жа хаты. Ластоўскі пытае: "Чаго ты, дзед, плачаш?" — "Мяне бацька пабіў!" — адказвае стары. Аказалася: стары, што сядзеў на лаўцы, быў бацькам таго старога, што плакаў. Сыну было 110 год, а бацьку 150. "Яны былі як дубы моцныя, — казаў Ластоўскі, — з сівымі барадамі, апранутыя ў даўгія белыя кашулі".

Падсумоўваючы ўсе звесткі аб В. Ластоўскім, якія тут прыведзены, можна зазначыць, што ён быў і гісторык, і мовазнавец, і бібліёграф, і навуковец, і фалькларыст, ды яшчэ і майстар кароткіх расказаў, якія сам бліскуча апавядаў.

Некалькі слоў хочацца сказаць і аб яго сям'і. Згодна выпісцы з саратаўскай следчай справы па стану на 1937 год, ён меў жонку Ластоўскую Станіславу Пятроўну ("домохозяйка"), дачку ад першай жонкі — Ластоўскую Станіславу Вацлаваўну, якая жыла ў Літве, брата Юсціна і сястру Яніну Ластоўскую, якія былі ў Польшчы. Толькі іх Ластоўскі ўпісаў у лісток па ўліку кадраў.

Са слоў дачкі Я. Дылы Ганны, з другой жонкай Станіславай Пятроўнай Ластоўскі пазнаёміўся ў час дзейнасці рэвалюцыйных гурткоў у Беларусі. Яны былі ідэйнымі саратнікамі, верылі ў неабходнасць рэвалюцыйных змен у Расіі. У іх быў сын Юрка, які памёр у 9 год, яшчэ да таго, як яны прыехалі на жыхарства ў Мінск. Першая жонка Вацлава, літоўка, была на 18 год старэйшай за яго, ён ажаніўся з ёю, калі яму было 18 год. У іх былі тры дачкі. Ганка жыла ў Мінску і працавала ў Дзяржуніверсітэце выкладчыкам, другая жыла ў Коўне, а Станіслава — у Вільні. У 60-я гады яго другая жонка — Станіслава Пятроўна — ездзіла з Саратава наведаць іх. Станіслава Пятроўна была хударлявая, высокая, з буйнымі рысамі твару. Мела вялікія шэра-блакітныя вочы, валасы светла-каштанавыя. Была рашучай, патрабавальнай, любіла ўладарыць, сварыцца, была бязлітаснай і няўдзячнай. Прапанаванае Дыламі жытло і сталаванне пасля вяртання яе з ГУЛАГа лічыла звычайнай з'явай і не адчувала неабходнасці быць удзячнай ім за гэта. Дамагалася заўсёды, чаго жадала. Добра вышывала. Любіла чытаць, была разумнай, актыўна ўдзельнічала ў рэвалюцыйнай дзейнасці (перавозіла "Іскру" ў С.-Пецярбург і Маскву, апранаючыся пад цяжарную сялянку, і ездзіла, адчуваючы кожны момант небяспеку). Але яна ўмела скласці аб сабе добрае ўражанне.

Знешні выгляд і паводзіны Вацлава Ластоўскага Ганна Дыла характарызавала наступным чынам: "Ён быў высокі, ладна збіты, меў рэдкія русыя валасы, шэра-блакітныя вочы, вялікія рукі і ногі, увогуле мажны быў мужык. Вельмі падабаўся жанчынам, і сам быў да іх неабыякавы. Неяк скардзіўся Я. Дылу, што ў трамваі дзяўчына яму ўступіла месца. "Няўжо я выглядаю старым? — запытаў ён Дылу. — Дзяўчыне я адказаў: "Дзякуй, я не стары!" Яму тады было каля 55 год (на думку Ганны). Размаўляў Ластоўскі ціха, спакойна і ласкава, асабліва з жанчынамі. Быў "ухажорысты". Аптыміст, заўжды бадзёры, жыццярадасны.

І гэта ўражанні аб Ластоўскім маладой дзяўчыны — студэнткі Саратаўскага тэатральнага вучылішча, калі ён знаходзіўся ў ссылцы, на чужыне. Сапраўды з прыведзеных новых біяграфічных фактаў і ўспамінаў сучаснікаў (Ганны Язэпаўны і Веры Аляксандраўны Арцісевіч) паўстае незвычайная і таленавітая асоба, постаць мужнага і энергічнага чалавека з шырокай эрудыцыяй і высокім прафесіяналізмам. Яго чалавечыя якасці і навуковыя веды адпавядалі якасцям чалавека эпохі высокага Адраджэння, якое для Беларусі прыйшлося на пачатак XX стагоддзя, але, на жаль, было спынена сталінскімі рэпрэсіямі.

У дні святкавання 110-х угодкаў з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага мы павінны з удзячнасцю схіліць галовы перад ім і перад яго светлай памяццю, падзякаваць Богу, што на зямлі шматпакутнай Беларусі нарадзіўся такі яе сын — патрыёт.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

# КАЛІ НАД НАМІ КАПАЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Таму ці трэба здзіўляцца, што на стале дырэктара замест планаў будучых выстаў ляжаць рахункі і каштарысы. А што рабіць? У дадатак да ўсіх праблем з 1 кастрычніка ўзраслі цэны на ацяпленне і электраэнергію, пакуль што яшчэ невядома канкрэтная сума, якую прыйдзецца плаціць, але ўжо зараз зразумела, што яна наўрад ці будзе па кішэні небагатай гасразліковай арганізацыі. Не трэба думаць, што кіраўніцтва палаца сядзіць склаўшы рукі. Аб тым, што шляхі выйсця шукаюцца, сведчаць шматлікія аб'явы на фасадзе: тут размясцілася і антыкварная лаўка, і выстаўка-продаж раскошнай італьянскай мэблі, нават праводзяцца богаслужэнні... Словам, плошчу здаюць у арэнду любому, у каго ёсць грошы. Вось і атрымліваецца, што Палац мастацтва ў рэшце рэшт аб'яднаў у сваіх сценах і лаўкі, і мастацтва, і гандляроў, і вернікаў. Хрыстос у такой сітуацыі некалі павёў сябе вельмі рашуча, выгнаўшы гандляроў з храма. На жаль, няма сёння сілы, здольнай абараніць і зберагчы для народа наш Храм мастацтва. А між тым дзе, як не тут, мастакі маюць магчымасць бясплатна выставіць свае карціны, а гледачы ўбачыць нацыянальнае мастацтва ва ўсёй яго разнастайнасці? Шматлікія прыватныя галерэі не змогуць даць такой падрабязнай, дакладнай і агульнай карціны, тым больш, што іх асноўная мэта — прадаць, а не пазнаёміць гледача са шматгранным нацыянальным мастацкім працэсам.

Дарэчы, у Палацы мастацтва таксама рабіліся спробы прадаваць работы, але, як высветлілася, справа гэта нявыгадная і амаль безнадзейная. Чаму? Па-першае, таму што за продаж карціны палац бярэ 30 працэнтаў ад яе кошту, а падатак дзяржаве складае 40,8 працэнта. Розніцу хоць з уласнай кішэні плаці... Па-другое, калі аднойчы ў адной з залаў паспрабавалі зрабіць своеасаблівы мастацкі салон, хутка па званку "зверху" давялося тэрмінова вызваліць памяшканне для выставы чарговага юбіляра.

Нават неяк няёмка сёння пісаць, як патрэбны нам Палац мастацтва. Гэтак жа няёмка, як і паўтараць прапісныя ісціны. Але, падумалася раптам, можа ісціны прапіснымі становяцца менавіта таму, што іх даводзіцца бясконца паўтараць? А паўтараюць у сваю чаргу з-за таго, што гаварыць заўсёды лягчэй, чым рабіць канкрэтную справу. Сумным будзе дваццацігадовы юбілей самай вялікай выставачнай залы Рэспублікі Беларусь. Хаця наўрад ці абыдзецца без урачыстых прамоў і святочных пажаданняў. Спадзяюся, што ў гэты дзень не будзе дажджу, і падчас свята не давядзецца трымаць парасоны над галовамі паважаных гасцей.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# БОХАН ХЛЕБА НА РАГУ СТАЛА

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Аўтар падкрэслівае, што гэты абрад, хоць і аказаўся пад моцным царкоўным уплывам, аднак захаваў яшчэ шмат традыцыйных элементаў. Ён спыняецца на розных этапах гэтага народнага абраду: прыход на ммогілкі, трапеза ля магіл, вяртанне дадому і наведанне лазні, урачыстая вячэра і інш.

Да Дзядоў старанна рыхтаваліся. Мужчыны прыбіралі падворак, пераносілі ў іншае, прыстасаванае для гэтых мэт месца ці памяшканне сельскагаспадарчыя і земляробчыя прылады, складвалі дровы, падмяталі двор. Жанчыны таксама не сядзелі склаўшы рукі: мылі сталы і лавы і асабліва старанна чысцілі чырвоны кут і запечак, дзе жыў дамавік, апякун роду і сям'і. Ну і, канечне, гатавалі смачныя стравы. Чысціня і мноства смачнай ежы, па народных уяўленнях, прываблівалі душы нябожчыкаў і задавальнялі іх.



Па прыходзе на месца вечнага спачыну продкаў родзічы папраўлялі занядбаныя магілкі, а свежыя абкладвалі дзёрнам (з гэтага часу, піша Г. Віньча, канчалася жалоба па памерлых на працягу года), каменнямі або драўлянымі брускамі ці дошкамі (для аховы чалавечых астанкаў ад звяроў). Пасля таго як мужчыны канчалі парадкаваць магілы, да іх далучаліся прыйшоўшыя з дому жанчыны. Усе збіраліся і маліліся, потым садзіліся ля магілак абедаць. Тут, як і паўсюдна на Беларусі, прытрымліваліся чаргі па старшынстве: першая чарка вылівалася на магілу: "То вам, дзяды, прадзеды". Толькі пасля гэтага пілі астатнія і прымаліся за ежу. Яна складалася з "мілты" (заваранай аўсянай мукі), кілбас і мяса. Калі падчас трапезы хто-небудзь выпадкова выпускаў з рук кавалак мяса (ці штонебудзь іншае з ежы), то яго ўжо не падымалі: ён для памерлых.

У гэтай вёсцы (верагодна, як і ў суседніх) існавалі свае асаблівасці, якія не назіраліся ў іншых мясцовасцях Беларусі. Напрыклад, калі ў сям'і апошнім памёр мужчына, то на могілкі прыносілі ў ячменнай кашы варанага пеўня, калі жанчына, то — курку. Як і ўсюды на беларускай этнічнай тэрыторыі, тут на магільніку ля ўзгалоўя магілы пакідалі частку страў, што засталіся пасля спажывання, напрыклад, гліняныя гаршкі з рэшткамі ежы.

Пасля гэтага вярталіся дамоў, палілі лазню і мыліся. І ў гэтым выпадку, дарэчы, прытрымліваліся прынцыпу старшынства: першым у лазню заходзіў галава радзіны, які, ставячы ваду на палок і кладучы побач венік, прызначаныя для душ нябожчыкаў, запрашаў перш за ўсё мыцца іх: "Дзяды! Прадзеды! Мыцца прыходзьце, адзін другога за руку прыводзьце!". Толькі пасля гэтага абраду ішлі астатнія мужчыны, а ў самым канцы — жанчыны.

Пасля лазні наступаў найважнейшы момант памінальнага абраду — традыцыйная вячэра. А перад яе пачаткам у хаце ўсё рабілася (убіралася адзенне, што вісела на жэрдках на печы, адчыняўся ў курнай хаце "верх" над дзвярыма, а ў хаце з комінам, наадварот, зачыняліся дзверы ў сенцах; выганяўся на двор сабака), каб душы продкаў бесперашкодна прыбылі на гэту ўрачыстасць.

У сям'і, памінальны абрад якой апісвае аўтар, на стол ставілася ўсяго сем страў, што сведчыла пра невялікую заможнасць гаспадароў. Звычайна ж сяляне імкнуліся на стол паставіць больш страў, каб задаволіць дзядоў і каб тыя на наступны год прынеслі дабрабыт сям'і. Сярод страў галоўнае месца адводзілася свіной галаве, зваранай з поліўкай. Акрамя таго, на стол падавалі клёцкі, кашу, яечню і розныя стравы з мяса. На рагу стала (насупраць кута) ставілі ў кубку хлебны квас, а на іншых клалі па буханцы хлеба (дзве жытнія, адну пшонную). Іх у гэты вечар не елі, а аддавалі назаўтра жабракам.

Усе жывыя члены сям'і перад тым, як сесці за стол, станавіліся на калені і маліліся па памерлых. Потым старэйшы, трымаючы ў руках свечку, спачатку абносіў яе вакол галавы, потым тройчы ля свіной у напрамку руху сонца і нарэшце ставіў яе на стол. Гаспадар жа пасля таго, як усе паселі за стол, вымавіўшы пэўныя патаемныя словы (якія нельга ўсе без дай прычыны вымаўляць), запрашаў на ўрачыстую вячэру прашчураў: "Дзяды, прадзеды! Бабкі, прабабкі! Прашу да нас на Дзяды! І самі прыходзьце, і дзетак малых прыводзьце!" Наліўшы гарэлкі ў кубак, галава сям'і найперш выліваў на рог стала, бліжэйшы да кута (пры якім ніхто не садзіўся): "То для вас, дзяды!" Пасля гэтага ён наліваў у шклянку, піў сам, сядаў, і ўсе пілі па чарзе. Першы кавалак ежы (ад галавы пачынаючы) гаспадар клаў на рог стала, прызначаны для "дзядоў", і толькі пасля гэтага кроіў сабе і іншым.

Падчас вячэры панавала ўрачыста-жалобная атмасфера. Прысутныя не азіраліся назад і захоўвалі прыстойную цішыню, бо душы ўсіх продкаў прысутнічалі тут, глядзелі на сваіх праўнукаў. Кожны адчуваў за сабой душы.

Зразумела, што асаблівыя пачуцці ў гэтыя хвіліны меў той, хто нядаўна страціў блізкага чалавека: "Пятруля яшчэ летась сядзела тут з намі. Станюль ужо колькі год на тым свеце, іншыя яшчэ даўней, але ж кожны год прысутнічаюць тут з намі, бачаць нас".

Трэба адзначыць, што Г. Віньча адзін з нешматлікіх аўтараў, які, спыняючыся на беларускіх Дзядах, дае апісанне таго, як наш народ у мінулым уяўляў, бачыў душы сваіх продкаў — дзядоў. Душы ж нябожчыкаў можна было бачыць рознымі спосабамі. Напрыклад, размясціцца за слупом ля печы на поле (нарах. — **А.Л.**) і глядзець праз хамут або глядзець праз дудку дзягілёвага сцебача і да т.п. Продкі ж яўляліся таму, хто глядзеў праз гэтыя рэчы, ва ўсім белым, у льняных народных жупанах (гэта датычылася, дарэчы, і вельмі старых людзей, памерлых некалькі сот год таму назад), якіх некалі хавалі ў рысіх шапках, з каменнымі сякерамі і г.д. Чалавек жа з цяжкасцю вытрымліваў іх выгляд з таго свету — мог адразу і памерці. У апісваемай аўтарам вёсцы падчас гэтай урачыстасці размова, як правіла, вялася аб продках, іх жыцці, якасцях і да т.п. Трапезу завяршаў гаспадар, які кланяўся, дзякаваў дзядам—прадзедам, што прыйшлі на вячэру, і прасіў, каб яны спакойна ішлі да сябе. Заўважым, што тут пасля ўрачыстага абеда тры буханкі складваліся адна на другую на рагу стала, а рэшткі ежы (як і ўсюды на нашай зямлі) заставаліся да наступнага дня, якія прыкрываліся рогам абруса. Толькі на другі дзень замяталі хату, а ежу, што засталася, аддавалі курам.

Нягледзячы на тое, што аўтар публікацыі не ўказвае месца, дзе ён назіраў святкаванне Дзядоў, аднак мы ўпэўнены, што гэта магло адбывацца або ў паўночна-заходняй частцы Віцебшчыны, або ў паўднёва-ўсходняй частны Віленшчыны. На карысць гэтага мы прывядзём некалькі аргументаў. Галоўным з іх з'яўляецца той факт, што менавіта ў многіх месцах Віцебшчыны, у Ашмянскім і Вілейскім паветах Віленскай губерні, сярэдзіны XIX-пачатку XX стагоддзяў шэраг аўтараў зафіксавалі існаванне старажытнейшага звычаю — выраб па нядаўна памерлай жанчыне[1] (дарэчы, у акадэмічным выданні "Пахаванні. Памінкі. Галашэнні" (Мн., 1986) пра гэты звычай не згадваецца) з бервяна дошкі з выразаннем на яе плоскаці чалавечай стапы ці крыжа або сярпа, часам года яе смерці (у гэтых мясцовасцях ставілі помнікі толькі па мужчынах (камень, крыж), па жанчынах жа насыпалі невялікі ўзгорак). Такія лёгкія кладкі (мосцікі) перакідваліся праз ручай, невялікую рэчку, роў. Той, хто цераз іх праходзіў, павінен быў вымавіць малітву за душу нябожчыцы. "Першапачатковы сэнс такіх мосцікаў, — адзначае Д. Зяленін, — дапамагчы нябожчыку пераадолець цяжкапраходныя месцы і перашкодзіць яму вярнуцца назад".

Другім аргументам з'яўляецца тое, што тэрмін "Літва" ў XIX—пачатку XX стагоддзяў часцей адносіўся да Мінскай, Віленскай, нават заходніх паветаў Віцебскай губерні (Адольф Чэрны, напрыклад, называў Дзісеншчыну Літвой), чым да ўсходняга рэгіёна Беларусі. І яшчэ адзін, здавалася б, нязначны факт. Г. Віньча супрацоўнічаў з польскім перыядычным друкам, у прыватнасці, часопісам "Земя", дзе змяшчаў фатаграфіі каштоўных этнаграфічных помнікаў, дарэчы, з Дзісенскага павета. Гэта можа ўказваць на тое, што ён мог паходзіць з Дзісеншчыны ці суседніх з ёю паветаў, бо краязнаўцы-аматары цікавіліся, як правіла, помнікамі родных мясцін і прапагандавалі перш за ўсё іх.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, у нарысе не ўказана вёска, дзе Віньча назіраў беларускі абрад Дзяды, і не названы людзі, у якіх ён пачарпнуў інфармацыю пра гэту ўрачыстасць, што было не так рэдка для публікацый польскіх аўтараў пачатку XX стагоддзя, асабліва гэта датычыла прац, змешчаных у навукова-літаратурных часопісах.

[1] Аднак у вёсцы, дзе назіраў абрад Дзядоў Г. Віньча, дошка вычэсвалася з бервяна па апошнім памерлым, верагодна, і мужчыне. Можна меркаваць, што тут старажытная традыцыя некалькі трансфармавалася ў свядомасці жыхароў і часткова была страчана. Можа быць, што аўтар на гэты факт асаблівай увагі не звярнуў або зблытаў пачутае.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ,
навуковы супрацоўнік НДЛ беларускага фальклору і дыялекталогіі БДУ.**

**НА ЗДЫМКАХ: ахвярная вячэра; магільнік у ноч на Дзяды. Духі (душы) памерлых спяшаюцца да сем''яў. Рысункі С.Багеньскага паводле матэрыялаў Г.Віньчы.**



## ТРОХІ ПРА А. САЛАЎЁВА

# З ТУГОЙ І ЛАСКАЙ

У "ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ літаратуры і мастацтва Беларусі" яго прозвішча адсутнічае. Не вельмі добра ўспамінае ў сваёй "Споведзі" пра беларускага мастака Аркадзя Салаўёва і Ларыса Геніюш: "Найболей мне не падабаўся мастак Салавей (відаць, так яго ўсе называлі, таму ў памяці паэткі ён застаўся як Салавей. — **С.Ч.**). Ён быў членам Камітэту (маецца на ўвазе Пражскі камітэт самапомачы. — **С.Ч.**), як і ўсе, але як жа неахвотна гутарыў па-беларуску, як жа адмежаваўся ад вестак нават з Бацькаўшчыны. Як за кару прыехала да яго пасьля родная сястра з Беларусі са сваім мужам і сыночкам. Ён і яго чэская жонка не зразумелі няшчасных харошых людзей нават тады, калі памёр у Празе на менінгіт іх адзіны сынок і лёс іх далей пагнаў у няведамае на чужыну...".

Кожны чытач па-рознаму ўспрыме гэтыя ўспаміны нашай слыннай паэткі. Але як бы там ні было, прозвішча Аркадзя Салаўёва з гісторыі беларускага мастацтва выкінуць немагчыма.

Нарадзіўся Аркадзь Салаўёў у 1902 годзе ў мястэчку Колуп на Дзвіншчыне. У 1920 годзе скончыў Дзвінскую рэальную гімназію, а ў 1921-м стаў слухачом курсаў беларусазнаўства, якія ладзіла таварыства "Бацькаўшчына".

У 1922 годзе А. Салаўёў выехаў у Прагу, дзе праз два гады вытрымаў конкурсны экзамен у Чэшскую акадэмію мастацтва. Вучыўся вельмі добра. Кожны год прымаў удзел у акадэмічных выставах. Яго карціны вызначаліся мяккасцю колераў.

За свае працы беларускі студэнт Аркадзь Салаўёў пастаянна атрымліваў пахвальныя дыпломы і бясплатныя камандзіроўкі ў Італію, Францыю і Германію.

У 1931 годзе ён скончыў Акадэмію мастацтва з пахвальным дыпломам, як адзін з найлепшых вучняў прафесара О. Нэдла. Яму адразу ў Празе выдзелілі майстэрню, дзе і працаваў ён аж да пачатку другой сусветнай вайны.

Матывы сваёй творчасці Аркадзь Салаўёў чэрпаў з чэшскае прыроды, выязджаючы ў суседнія з Прагаю вёскі. Ён любіў тую мясцовасць, якая была падобна да нашай беларускай прыроды з яе нізінамі і прасторнымі лугамі.

У красавіку 1933 года ў Празе ў галерэі Рубэша была наладжана яго першая асабістая выстава, якая выклікала вялікую зацікаўленасць у чэхаў. Ветліва і прыхільна да творчасці нашага земляка паставілася і прэса. У справаздачах аб выставе, якія змяшчаліся ў штодзённым друку "Narodni Listy", "Narodni Politika", "Narodni Osvobozeni", "Lidove Listy", "Pravo Lidu", "Poledni Listy" і ў іншых, аднагалосна падкрэслівалася, што беларускі мастак, вучань прафесара Отакара Нэедла (школа пейзажа), уважліва і пільна працуе над сабой, над удасканаленнем тэхнікі сваёй мастацкай творчасці — адбірае і ўводзіць новыя колеры, паглыбляе кампазіцыю сваіх карцін. У яго творчасці праяўляецца значны крок наперад: знікае шэрая цмянасць і з'яўляюцца праменні сонца. А таксама адчуваецца ўплыў французскае школы пейзажа, асабліва Карота...

28 лютага 1935 года ў Празе адбылася другая выстава Аркадзя Салаўёва, пазней былі новыя выставы з поспехам і аншлагам. Пра творчасць нашага мастака гаварылі і пісалі не толькі ў Чэхаславаччыне, але і ў роднай Беларусі. Віленскі часопіс "Калосьсе", напрыклад, у 1935 годзе адзначаў: "У творчасці А. Салаўёва ўсьцяж ёсьць нешта сталае і трывалае: ён быў і астаецца сумна-тужлівым лірыкам прыроды. Ці гэта будуць вербы над рэчкаю, ці адзінокія сосны ў лагчыне, бярозавы гай на прадвесьні — на ўсім ляжыць адзнака смутку і ціхай тугі, быццам у чаканьні чагосьці. Нават і залатыя праменьні сонца ўпіраюцца недзе ў шэра-цьмяныя хмары і толькі водблескам сваім асьвятляюць даліну з яе расахатымі дрэвамі, зялёным дыванам травы і колернымі пялёсткамі кволых кветак, адлюстроўваюцца ў цьмяна-празрыстай вадзе сажалкі, быццам у ціхай задуме ўзіраюцца ў вочы глядзельніка, выклікаюць пачуцьцё тугі і жаданьня — больш волі, больш сонца!

Як гэта мо і ня дзіўна, але мастацкая ўява прыроды ў Аркадзя Салаўёва мае нешта супольнае з тымі колерна-апісовымі абразамі беларускае прыроды, якія сустракаемо ў вялікага мастака беларускага слова — у Якуба Коласа (Тараса Гушчы). Прырода ў іх творчасьці — гэта быццам маладая матка, якая чакае нараджэньня свайго першага дзіцяці: поўна нязьведанай тугі і кволай ласкі..."

Мастак Аркадзь Салаўёў вельмі хацеў вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб прыняць удзел у будаўніцтве Беларускай акадэміі мастацтва. Але ўсе мары мастака перакрэсліла вайна, пасля якой лёс яго застаецца невядомым.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ПАДАРУНАК З ЧЫКАГА

У Чыкага яшчэ на пачатку стагоддзя існавалі беларускія асяродкі. Сёння ж там найбольш актыўна дзеіць Беларускі Каардынацыйны Камітэт, які ўзначальваюць Вера і Вітаўт Рамукі. Д-р Вітаўт Рамук у адным са сваіх лістоў напісаў мне наступнае: "Са спадаром Міхасём Клейнэрам увайшлі ў кантакт, калі Вы прыслалі ягоны тэлефон. Вельмі мілыя і гасьцінныя спадарства Клейнэры. Ён паклаў на музыку верш Генадзя Бураўкіна "Слава твая, Беларусь", Ваш верш "Нам ніколі не памерці", верш Рэма Таміліна "Каханыя рукі Твае", вершы Натальлі Арсеньневай "Калыханка" і "Люблю я сонца залатое" ды верш Рыгора Барадуліна "Дагэтуль незабытая". З гэтымі песьнямі М.Клейнэр выступіў на сакавіковым сьвяткаваньні ў Чыкага..."

Такім чынам, як бачым, чыкагскія беларусы займелі ў асобе Міхаіла Барысавіча Клейнэра свайго шчырага сябра. А калі ён жыў яшчэ ў Мінску, я выпадкова даведаўся, што Міхаіл Барысавіч напісаў на словы майго верша "Два промні" лагодны раманс. Але ноты я так і не паспеў атрымаць. Таму і завязалася з ім перапіска — ужо праз акіян. Сам М.Клейнэр не толькі кампазітар. Ён піша вершы па-беларуску, па-расейску і на ідзіш.

Нядаўна я атрымаў ад яго падарунак — ноты песні "Нам ніколі не памерці", якім і хачу падзяліцца з чытачамі "Голасу Радзімы".

Сяргей ПАНІЗЬНІК.

## НАМ НІКОЛІ НЕ ПАМЕРЦІ

*Словы Сяргея ПАНІЗЬНІКА (Мінск)* *Музыка Міхаіла КЛЕЙНЭРА (Чыкага)*




Нам ніколі не памерці,
а ў ніякім горы,
бо з маёй зямлі не сцерці
сінія азёры:
нашу Нарач, нашу Свіцязь...
Столькі сілы ў слове!
Беларускі край, што віцязь,
слаўны роднай мовай.
Беларускі край, што віцязь,
слаўны роднай мовай.

Нам ніколі не памерці,
не згарэць, як свечкі.
Прападуць азёры ў свеце —
застануцца рэчкі:
наша Ясельда і Шчара,
наш Дняпро і Нёман...
Беларусь — край светлых чараў —
кожнаму знаёма.
Беларусь — край светлых чараў —
кожнаму знаёма.

Нам ніколі не памерці,
не растаць, як знічкі.
Пасля нас і нашы дзеці
стануць ля крынічкі,
ля якой змаглі ў час весні
зноў мы ўкараніцца...
Беларусь — крыніца песні
і любві крыніца.
Беларусь — крыніца песні
і любві крыніца.

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА

РОДНЫ КРАЙ '93

### 22 кастрычніка, пятніца

## ДЗЕ ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ?

Па даных апошняга перапісу насельніцтва, у Літве пражывае 3 мільёны 675 тысяч чалавек. З іх літоўцаў — 2 мільёны 924 тысячы, рускіх 344 тысячы, палякаў — 258 тысяч, беларусаў — 63 тысячы.

Насельніцтва Латвіі складае 2 мільёны 667 тысяч. Латышоў з іх — 1 мільён 388 тысяч, рускіх — 960 тысяч, беларусаў — 120 тысяч, украінцаў — 92 тысячы, палякаў — 60 тысяч.

У Эстоніі, якая налічвае 1 мільён 565 тысяч насельніцтва, усяго 963 тысячы эстонцаў. Акрамя іх тут пражывае 475 тысяч рускіх, 48 тысяч палякаў, беларусаў прыблізна столькі ж.

Нашы землякі пражываюць і ў іншых рэгіёнах. Напрыклад, у Малдове іх амаль 20 тысяч, у Грузіі — 8,5 тысячы, у Арменіі — крыху больш 1 тысячы.

### 27 кастрычніка, серада

## "ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА"

У 1521 годзе рымскі папа Лявон Х, вядомы мецэнат і заўзяты аматар палявання, у час размовы з паслом польскага караля і вялікага князя літоўскага Эразмам Вітэліусам выказаў ахвоту мець у сваіх пакоях чучала зубра і прачытаць праўдзівае паэтычнае слова пра звычкі гэтага волата і лясы, што даюць яму прытулак.

Сакратаром пасла быў ужо вядомы на той час беларускі паэт-лацініст Мікола Гусоўскі. Ён і атрымаў даручэнне напісаць для папы паэму пра зубра.

Гусоўскі не проста выканаў заказ папы. Яго геній стварыў у "Песні пра зубра" яскравы вобраз эпохі і радзімы — Вялікага Княства Літоўскага.

У сваім творы Мікола Гусоўскі паўстае перад чытачом як філосаф, географ і гісторык, але найперш — як выдатны паэт-гуманіст, які ўсёй сілаю таленту ўслаўляе Бацькаўшчыну і выступае супраць войнаў. Паранены зубр у паэме — гэта сімвал роднай зямлі з яе славаю і яе нягодамі.

Падчас працы над "Песняй" у Рыме пачалася чума. Памёр папа Лявон Х, памёр апякун паэта біскуп Вітэліус. Тым не менш Мікола Гусоўскі здолеў завяршыць паэму і вярнуцца з ёю на радзіму.

З прысвячэннем польскай каралеве Боне "Песня пра зубра" выйшла ў Кракаве ў 1523 годзе і зрабіла імя свайго аўтара неўміручым.

Паэма неаднаразова перакладалася на еўрапейскія мовы. Сёння існуюць ужо два беларускія пераклады, што належаць пяру Язэпа Семяжона і Уладзіміра Шатона.

Уладзімір АРЛОЎ.

## ДА ЮБІЛЕЮ ПАЭТКІ

З нагоды юбілею Наталлі Арсенневай у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры была наладжана літаратурная сустрэча і адбылося адкрыццё выставы. У стварэнні выставы прымалі ўдзел Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, кніжная палата.

На вечары перад студэнтамі педагагічнага універсітэта, супрацоўнікамі музея і бібліятэк выступіла Ірына Багдановіч — кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры. Хор "Дабралад" (мастацкі кіраўнік Галіна Мацес) выканаў "Малітву" Наталлі Арсенневай. Дыктар Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Ларыса Гранько прачытала вершы паэткі.

## СПОРТ

ГАНДБОЛ. Першы тур паўфіналу чэмпіянату Еўропы завяршыўся ў Мінску. Зборная Беларусі набрала сем ачкоў з васьмі і ўзначаліла турнірную табліцу.

БАСКЕТБОЛ. Мінскі клуб РТІ ў чарговай сустрэчы першынства Міжнароднай прафесіянальнай лігі перамог каманду "Будаўнік" з Самары — 92:73 і па набраных ачках наблізіўся да лідэраў.

ТЭНІС. Буйныя спаборніцтвы завяршыліся ў Фільдэрштаце. Мінчанка Наталля Зверава заняла тут другое месца. Гэты поспех дазволіў нашай зямлячцы падняцца з 20-га на 18-е месца ў спісе мацнейшых тэнісістак свету.

ХАКЕЙ. У снежні пройдзе міжнародны турнір на прыз газеты "Известия". На гэтыя спаборніцтвы запрошана нацыянальная каманда Рэспублікі Беларусь.

АЎТАМАБІЛЬНЫ СПОРТ. Беларуская федэрацыя стала паўнапраўным членам ФІА — Міжнароднай аўтамабільнай федэрацыі. Такое рашэнне прынята на чарговай канферэнцыі гэтай арганізацыі, якая адбылася нядаўна ў Парыжы.



Далёка за межамі Віцебшчыны вядома дзіцяча-юнацкая спартыўная школа з гарадскога пасёлка Ушачы. Тут працуе сельская секцыя воднalыжнага спорту. Створана яна на базе саўгаса-камбіната "Арэхаўна". У ёй займаецца 4 майстры спорту, 4 кандыдаты ў майстры і 14 разраднікаў. Акрамя таго, тут спасцігаюць азы 120 навічкоў.

Сёлетні сезон быў асабліва ўдалым для сельскіх воднalыжнікаў і іх трэнера-выкладчыка, майстра спорту Ігара Лешчанкі. Выхаванка школы майстар спорту Зінаіда Даперка стала чэмпіёнкай Еўропы, СНД і Беларусі па скачках з трампліна.

НА ЗДЫМКУ: першая чэмпіёнка Еўропы з Ушачаў Зінаіда ДАПЕРКА.

Фота А.ТАЛОЧКІ.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1512. Падпісана да друку 25. 10. 1993 г.